Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 25 (4876) 24 чэрвеня 2016 г.


Летапісцы вайны 4-5


Вандроўка ў алмазе 11


Дызайнераў лучыць «Ідэя» 12


Культура ад народа 13


Танцавальная споведзь 14

# Душа застанецца жывой



*Віктар Грамыка «1941. Над Прыпяццю».*

**Народам рухала агульная мэта — перамагчы. Бяссонныя ночы, неспакой, голад, боязь — усё гэта кожная беларуская сям'я адчула спаўна. Як балючы след памяці, тэма Вялікай Айчыннай вайны на працягу доўгіх год — адна з асноўных для пісьменнікаў, мастакоў, кінарэжысёраў, музыкаў, якія творчасцю праслаўлялі і праслаўляюць подзвіг народа ў барацьбе за свабоду. Сёння засталіся тыя, хто яшчэ памятае ваенны час і да сённяшняга дня перажывае боль. Менавіта яны падарылі нам радзіму, і толькі яны могуць расказаць, як усё было на самай справе.**

Гістарычную карціну «1941. Над Прыпяццю» ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны, народны мастак Беларусі Віктар Грамыка напісаў на пачатку 1970-х гадоў. Прыехаўшы на Прыпяць, белыя пяскі якой заварожваюць і прыцягваюць, мастак убачыў жанчыну, што чакае перавоза. Апранутая ў цёмную спадніцу і чырвоную кофту, яна ў задуменнасці глядзела на ваду. Гэта імгненне неяк растрывожыла душу мастака, узнавіла ўспаміны пра вайну, наступствы. У выніку праз некалькі месяцаў аўтар напісаў карціну зусім не на бытавую тэму. Тая самая жанчына, быццам закамянелая ў горы, сядзіць на прыпяцкім пяску, а перад ёю — ледзь жывы салдат, пагранічнік. На заднім плане маленькая дзяўчынка кліча перавоз: патрэбна дапамога.

Палатно Віктара Грамыкі «1941. Над Прыпяццю» — сімвал бессмяротнасці. Лежачы на беларускай даматканай посцілцы, салдат памірае толькі целам, душа яго застаецца жывой — на прасторах блакіту ракі яна вянчаецца з вечнасцю. Цяпер тут толькі сцябло затвора вінтоўкі, бліскучае, нібыта заручальны пярсцёнак, нагадвае, што зусім блізка ідзе вайна.

Адлюстраваны мастаком эпізод у пачатку вайны стаў гімнам салдацкаму гераізму і самаахвярнасці. Пасля яго Віктара Грамыку ў беларускім мастацкім асяродку сталі характарызаваць як майстра гістарычнай карціны. Сёння палатно знаходзіцца ў пастаяннай экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Пункцірам

✔ Выстаўка «Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому...», прысвечаная жыццю і творчасці беларускага пісьменніка і Дню ўсенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны, адкрылася ў Міністэрстве замежных спраў. Выстаўка заснавана на апошняй прыжыццёвай кнізе пісьменніка і ўяўляе сабой літаратурна-дакументальны праект Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. У цырымоніі адкрыцця ўзялі ўдзел міністр замежных спраў Уладзімір Макей, кіраўнікі дыпламатычнага корпуса, акрэдытаванага ў Беларусі, і іншыя госці.

✔ У Мінску разгледжаны шэраг пытанняў па арганізацыі навуковай дзейнасці ў Еўропе. Еўрапейская навуковая супольнасць высока ацэньвае патэнцыял беларускіх навукоўцаў і гатова актывізаваць супрацоўніцтва з НАН Беларусі, у тым ліку ў напрамку гуманітарных навук. Падчас пасяджэння савета Асацыяцыі еўрапейскіх акадэмій навук (*ALLEA*), якое адбылося ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, гэты факт агучыў прэзідэнт асацыяцыі Гюнтэр Шток.

✔ Беларусь і Расія цесна супрацоўнічаюць у сферы культуры па ўсіх напрамках, адзначыў намеснік міністра культуры Беларусі Васіль Чэрнік на брыфінгу ў Маскве з нагоды Дзён культуры Беларусі ў Расіі, якія прайшлі на гэтым тыдні. Паводле намесніка міністра, у нашай краіне штогод праводзіцца больш за сотню фестываляў, конкурсаў і іншых мерапрыемстваў, у большасці з якіх прымаюць удзел расійскія выканаўцы. Беларускія калектывы таксама заўсёды рады прыязджаць у расійскія гарады.

✔ Фотааповед пра жыццё Саюзнай дзяржавы прадставіла выстаўка Беларускага тэлеграфнага агенцтва «Саюзная дзяржава — адзінства народаў, культур, краін» у Дні культуры Беларусі ў Расіі. Экспазіцыю склалі 30 работ. На здымках можна было пабачыць моманты самых важных палітычных падзей. Кадры фотахронікі распавялі пра рэалізацыю сумесных праграм і мерапрыемстваў у прамысловасці, абароннай і сацыяльнай сферы.

✔У выставачнай зале «Музей вайны — тэрыторыя міру» Брэсцкай крэпасці пачала працаваць беларуска-расійская выстаўка «Не забі», паведаміла загадчыца музея Алена Грыцук. Гэта сумесны праект мемарыяльнага і прыроднага запаведніка «Музей-сядзіба Л. М. Талстога "Ясная паляна"» і мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой». Экспазіцыю можна наведаць да 31 жніўня.

✔ Выстаўка газет-плакатаў 1941 — 1945 гг. «Раздавім фашысцкую гадзіну» адкрылася ў гомельскім палацы Румянцавых і Паскевічаў. Аднайменная газета-плакат, мірным працягам якой стаў вядомы часопіс «Вожык», была вельмі папулярным выданнем у гады Вялікай Айчыннай вайны. Паводле дырэктара музея Аксаны Торапавай, сатырычнае выданне, дзе працавалі Міхась Чавускі, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Кузьма Чорны, пачыналася ў Гомелі, дзе ў ліпені 1941 года выйшла 13 яго нумароў.

✔ Міжнародны Шагалаўскі пленэр адраджаюць у Віцебску ў год 25-годдзя Музея Марка Шагала. Паводле дырэктара ўстановы Ірыны Воранавай, 5 ліпеня, падчас пленэру, у Музеі Марка Шагала будуць прэзентаваныя мультфільм «Марк Шагал. Пачатак», створаны нацыянальнай кінастудыяй «Беларусьфільм», і перасоўная выстаўка, якую прадставіла кінастудыя і Нацыянальны гістарычны музей Беларусі. Завершыцца пленэр выстаўкай выніковых прац. Прычым па дзве карціны кожнага мастака застануцца ў Віцебску.

# «Цытадэль традыцыйнай культуры і маралі»

## Такой бачыць Беларусь Кіраўнік дзяржавы

**Пра далейшае развіццё нашай краіны ішла гаворка на V Усебеларускім народным сходзе, што адбыўся 22 — 23 чэрвеня ў сталіцы.**

Дата была выбрана невыпадкова. «Гэта сапраўды сімвалічная, трагічная і — самае галоўнае — павучальная дата. Роўна 75 гадоў таму пачалася самая страшная і кровапралітная вайна ў гісторыі. Мы добра памятаем яе ўрокі», — падкрэсліў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ў сваім выступленні на сходзе. «І галоўны ўрок у тым, што любую, нават самую вялікую бяду можна адолець толькі разам, — прадоўжыў Кіраўнік дзяржавы. — Калі перад цяжкасцямі народ аб'ядноўваецца, а людзі не падаюць духам, то любыя перашкоды пераадольныя і любыя мэты дасягальныя», — паведамляе БелТА.



*22 чэрвеня дэлегаты V Усебеларускага народнага сходу ўсклалі кветкі да манумента Перамогі.*

«Наша мэта — не самаізаляцыя, не супрацьстаянне іншых культур, а ўзаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне. Падкрэсліваю, адметнымі рысамі культуры беларускага народа з'яўляюцца ўзаемная павага, непрыманне любых форм міжнацыянальнай варожасці. Гэтыя прынцыпы мы падтрымлівалі і надалей будзем падтрымліваць!» — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Творы літаратуры, музычнага, выяўленчага, тэатральнага і кінамастацтва, якія ствараюцца, заклікаpast садзейнічаць фарміраванню каштоўнасцей беларускага грамадства, адлюстроўваць духоўны досвед нацыі. Паводле слоў Прэзідэнта, для развіцця сферы культуры ў Беларусі зроблена нямала. «Трэба культурным работнікам быць больш ініцыятыўнымі, раскаванымі і не глядзець увесь час у рот дзяржаве. Акцэнт трэба зрабіць як на маштабах і якасці нашай культурнай сферы, так і на павышэнні яе турыстычнай прывабнасці», — адзначыў ён.

У будучыню скіраваная Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2016 — 2020 гады. «Мы цудоўна разумеем: праблемы не вырашацца самі сабой, крызісныя з'явы не знікнуць па ўзмаху чарадзейнай палачкі. Менавіта таму ў аснову Праграмы пакладзены прынцыпы прагрэсу і адкрытасці. Мы робім стаўку на веды і тэхналогіі. У гэтым ключ да вырашэння бягучых праблем і руху наперад», — заўважыў Кіраўнік дзяржавы.

«Дзяржава для народа, справядлівасць, абарона простага чалавека — гэта тое, на чым стаяла і стаяць будзе беларуская дзяржаўнасць», — заявіў беларускі лідар. «Не навязваючы вам свайго меркавання, хачу заўважыць, што праект праграмы, вынесены на ўсенароднае абмеркаванне, з'яўляецца рэалістычным, улічваючым нашы магчымасці».

Галоўнае цяпер — выкарыстоўваць любы шанц і магчымасць пераадолець усе цяжкасці на шляху прагрэсу і стварэння, не паддавацца дэпрэсіі ды застою, захоўваючы ўсё лепшае з мінулага, упэўнена рухацца да мэты. «Усё залежыць ад нас, ад нашага выбару і настойлівасці ў дасягненні пастаўленых мэт. Жыццё паказвае, што мэтанакіраванасць народа здольная тварыць цуды», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

**Святлана САРОКА, член Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці, дырэктар дзяржаўнай установы «Палац культуры г. Маладзечна»:**

— На чарговым Усебеларускім народным сходзе вызначаюцца галоўныя шляхі, па якіх мы павінны рухацца ў наступнай пяцігодцы, якія дазволяць працягнуць дынамічнае развіццё галін культуры, аховы здароўя, фізічнай культуры і спорту. Гэта забяспечыць далейшае развіццё, умацаванне пазіцый і росквіт Беларусі. Тое, што 2016-ы абвешчаны Годам культуры, з'яўляецца пераканаўчым сведчаннем адметнай ролі культуры ў сучасным грамадстве.

**Уладзімір ПРАКАПЦОЎ, генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея:**

— Прэзідэнт расставіў прыярытэты на будучую пяцігодку. Як у мінулыя гады, самым галоўным застанецца клопат пра людзей, пра канкрэтнага чалавека, пра нашу будучыню, моладзь, пра гуманітарную сферу, пра адукацыю, культуру. Для мяне бліжэй тое, што быў і ёсць галоўны прыярытэт беларускай культуры — захаванне памяці пра нашу гісторыю. Падтрымка людзей мастацтва, творчай інтэлігенцыі, моладзі. Алгарытм працы ў гэтым кірунку добра арганізаваны, але яго яшчэ залежыць як след адпрацаваць у будучыні.

## У пісьменніцкім асяродку

# Фэсты і сустрэчы

Вялікае паэтычнае свята адбылося ў канцэртнай зале «Ракетчык» Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь. Да курсантаў і афіцэраў завіталі члены Студыі ваенных пісьменнікаў, што працуе пры Цэнтральным доме афіцэраў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Публіка цёпла вітала дэлегата V Усебеларускага народнага сходу, старшыню Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова. Паэт пазнаёміў слухачоў з новымі і ранейшымі ваеннапатрыятычнымі вершамі, а таксама прэзентаваў кнігу сваіх вершаў на рускай мове «Цяпло рамонкавай мяцеліцы» ў перакладах з беларускай многіх вядомых паэтаў нашай краіны.

Перад прысутнымі выступілі паэт, кіраўнік Студыі ваенных пісьменнікаў Яўген Каршукоў і паэт, палкоўнік у адстаўцы Леанід Лукша. Уважліва слухалі абаронцы краіны і вершы маладой паэтэсы, сябра СПБ Таццяны Купрыянец, якая піша на ваенна-патрыятычныя тэмы.

Міжнародны літаратурна-музычны фестываль «Славянскі вянок», што ў трэці раз прайшоў на Берасцейшчыне, у Бярозе, стаў без перабольшання культурным брэндам горада. Традыцыйна ладзіцца ў фармаце літаратурна-музычнага форуму. Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» распавёў старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч.

У фэсце ўзялі ўдзел каля дваццаці дзеячаў мастацтваў Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы, сярод якіх — паэтэсы Алена Трафімчук і Дар'я Сухавей (Расія), Аксана Баравец і Аляксандра Шаліна (Украіна). Упершыню да форуму далучыліся прадстаўнікі Сербіі — паэты Срджан Томіч і Уладзімір Яніч. Абмяркоўвалася і магчымасць надалей уручаць у межах «Славянскага вянка» літаратурную прэмію імя Уладзіміра Калесніка Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта.

Айчыннае выдавецтва «Чатыры чвэрці» шмат робіць для развіцця і папулярызацыі беларускай літаратуры. Супрацоўнікі выдавецтва і яго дырэктар Ліліяна Анцух часта сустракаюцца з чытачамі ў розных кутках краіны.

Чарговая выязная імпрэза прайшла на Стаўбцоўшчыне. Менавіта адсюль родам сябры Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Мікола Маляўка, Казімір Камейша і Яўген Хвалей, кнігі якіх — «Нябесны фатограф», «Гордзіеў вузел» і «Серабрыстыя таполі» — нядаўна пабачылі свет у «Чатырох чвэрцях». Акрамя таго, у вандроўцы па Коласавых мясцінах удзельнічалі першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, паэт Змітрок Марозаў і загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка. Рэдакцыя «ЛіМа» даведалася пра гэта ад пісьменніка Яўгена Хвалея.

Спачатку творчая дэлегацыя наведала стаўбцоўскую гімназію № 1, дзе ў свой час вучыліся Кандрат Крапіва і брат Якуба Коласа Іосіф Міцкевіч. А сустрэча ў Шашкоўскай сярэдняй школе з мастацкім ухілам, вучні якой неаднаразова перамагалі ў рэспубліканскіх творчых конкурсах, ператварылася ў сяброўскі дыялог.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Таямніцы палацавай імпрэзы

## Нясвіж пачуе духоўныя творы Сімяона Полацкага

Вечары Вялікага тэатра ў рэзідэнцыі Радзівілаў — свята для знаўцаў опернага і балетнага мастацтва — стартуюць ужо сёння і пройдуць па 26 чэрвеня. Атмасфера выходных у Нясвіжскім замку напоўніцца беларускай духоўнай музыкай эпохі барока ў касцёле Божага цела. Салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь выканаюць фрагменты «Жальбаў» і псалмоў Сімяона Полацкага. Прагучаць таксама творы Іагана Себасцьяна Баха, Георга Фрыдрыха Гендэля, Джавані Пергалезі. Канцэртмайстрам праграмы выступіць Ларыса Церахава.


Сцэна з оперы «Іаланта».

А вечарам у дзень адкрыцця будзе прадстаўлена харэаграфічная інтэрпрэтацыя рамана Мігеля дэ Сервантэса пра іспанскага рыцара Дона Кіхота, знакамітага барацьбіта з несправядлівасцю. Разам з Санча Пансам яны апынуцца ў камічных сітуацыях, знойдуць даму сэрца і пазнаёмяцца з мноствам іншых, не менш каларытных персанажаў — ад вандроўных цыганоў да адважных тарэра. Дырыжор танцавальнай пастаноўкі ва ўнутраным дворыку замка — заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Мікалай Калядка.

На наступны дзень, 25 чэрвеня, у Канцэртнай зале замка Радзівілаў пройдзе рамантычны канцэрт «Сэрца, табе не хочацца спакою». Вы пачуеце вядучых салістаў опернага — Уладзіміра Пятрова, Таццяну Трацціяк, Наталлю Акініну. Акампаніраваць ім будзе струнны квінтэт «Серэнада». Вечар гэтага ж дня стане не менш лірычным з казачнай операй «Іаланта» Пятра Чайкоўскага. Дырыжор — Андрэй Галанаў, а галоўныя партыі выканаюць заслужаныя артысты і лаўрэаты міжнародных конкурсаў Настасся Масквіна, Эдуард Мартынюк, Ілья Сільчукоў, Уладзімір Громаў.

Ніякага перапынку, бо ўжо 26 чэрвеня на сцэне — тэатралізаваная музычная бітва «Тэнары супраць басоў». Тры цёплыя чэрвеньскія вечары ў Нясвіжы завершацца грандыёзным гала-канцэртам з зоркамі Вялікага ва ўнутраным дворыку замка. На гэты раз дырыжоры два — Віктар Пласкіна і Андрэй Галанаў. Праграма, як заўсёды, вельмі насычаная: ад папулярных арый, дуэтаў, харавых сцэн да па-дэ-дэ, адажыя і варыяцый з любімых балетаў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Ад яе зыходзіла толькі светлыня

## Не стала літаратурнага крытыка Валянціны Локун



Пачатак лета. Час росквіту ўсяго жывога. А ёй было наканавана якраз у гэтую дзівосную пару пакінуць светлы-светлы свет, які і яна ствараla сваім самабытным талентам і найкаштоўнейшымі чалавечымі якасцямі.

Валянціна Локун — надзвычай моцная жанчына. Слова «была» знарок не ўжываю. Ну якое ж была?! Яна жыве ў літаратуразнаўчых артыкулах, творах, кнігах… Кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. І гэта пры тым, што прыкаваная да ложка!

Валянціна Іванаўна нарадзілася 6 жніўня 1946 года ў вёсцы Цепянец Пінскага раёна. Скончыла Цепянецкую пачатковую школу, вучылася ў Малоткавіцкай СШ. З сёмага класа па хваробе перайшла ў Пінскую завочную школу, якую скончыла ў 1966 годзе з залатым медалём. Адразу паступіла на рускае аддзяленне філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна. У 1974 годзе разам з сям'ёй пераехала ў г. Пінск. Скончыла аспірантуру пры Белдзяржуніверсітэце. У 1984 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме «Праблемы стылю беларускай ваеннай прозы» (на матэрыяле творчасці Васіля Быкава, Барыса Сачанкі, Івана Чыгрынава). З 1987 па 2010 год — супрацоўнік, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАН Беларусі. Першая публікацыя з'явілася ў 1973 годзе ў газеце «Полесская правда» (г. Пінск). Аўтар больш чым сотні навуковых артыкулаў па праблемах развіцця беларускай літаратуры ў кантэксце сусветнай літаратуры, а таксама некалькіх зборнікаў і манаграфій. У суаўтарстве з іншымі вядомымі літаратуразнаўцамі выдала «Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей» (Мінск, «Беларуская навука», 2002). У 2003 годзе «Нарысы…» перакладзены на ўкраінскую мову і выдадзены ў Кіеве. Лаўрэат прэмій прэзідэнтаў акадэмій навук Украіны, Беларусі і Малдовы (2004). Узнагароджана медалём Святой Еўфрасінні Полацкай ад Міжнароднага фонду Святой Еўфрасінні Полацкай (2006).

За апошнія гады Валянціна Іванаўна паспела, да ўсяго, зрабіць агляды творчасці многіх маладых сяброў Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, якія паспелі выдаць па адной-дзве кнігі. Заўсёды трымала руку на пульсе літаратурнага жыцця краіны.

А колькі прыемных эмоцый захліствала кожнага, хто наведваў Валянціну Локун дома — у Пінску! Неаднойчы гэтыя эмоцыі меў шчасце адчуць і аўтар гэтых радкоў. Ніколі не забудуцца яе прыветная і мілая ўсмешка, пяшчотны голас, іскрыстыя вочы…

Памяць пра Вас, дарагая Валянціна Іванаўна, самая светлая.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**24 чэрвеня** *— у дзіцячую бібліятэку № 5 (вул. Русіянава, 48) на творчую сустрэчу з паэтэсай Янінай Жабко. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**28 чэрвеня** *— на пасяджэнне Студыі ваенных пісьменнікаў у Цэнтральную бібліятэку Цэнтральнага дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**28 чэрвеня** *— на Жальбіны з нагоды 74-й гадавіны смерці народнага паэта Беларусі Янкі Купалы (Вайсковыя могілкі на вул. Казлова). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**29 чэрвеня** *— у Школу маладога паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**30 чэрвеня** *— на прэзентацыю руска-беларускага нумара дзіцячага часопіса «Мурр+» (г. Калінінград) у Цэнтральную гарадскую дзіцячую бібліятэку (пр. газеты «Праўда», 20). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**30 чэрвеня** *— на свята дзіцячай кнігі «Сябруем з кнігаю заўсёды» з удзелам пісьменнікаў у СШ № 9 (вул. Е. Гедройца, 20). Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**28 чэрвеня** *— на творчую сустрэчу навучэнцаў Мінчыны ў школе «Со-Творчество» (секцыя «Паэзія»; г. Мінск, пл. Свабоды, 13, актавая зала). Пачатак у 11.00.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**29 чэрвеня** *— на літаратурны вечар «Когда неравнодушно сердце…» з удзелам Мікалая Балдоўскага, Пятра Буганава, Галіны Загурскай і Віктара Карасёва ў бібліятэку імя У. Маякоўскага г. Наваполацка (вул. Калініна, 1). Пачатак а 17-й гадзіне.*

## Дайджэст

• Музей братоў Стругацкіх з'явіцца ў Санкт-Пецярбургу. Па меркаванні кіраўніка Фонду Стругацкіх Сяргея Арно, спатрэбіцца паўтара года для выбару памяшкання і фарміравання калекцыі. Кватэру Барыса Стругацкага, дзе знаходзяцца архіўныя матэрыялы, немагчыма выкарыстоўваць для стварэння экспазіцыі, бо плошча памяшкання занадта малая. Што да самой экспазіцыі, аснову яе складзе не толькі літаратурная спадчына Стругацкіх, але і экспанаты, звязаныя з экранізацыямі іх твораў.

• Дэн Браўн, аўтар бестселера «Код да Вінчы», ахвяраваў бібліятэцы нідэрландскага горада Рытман 300 тысяч еўра. Так ён аддзячыў кніжніцы за дапамогу ў зборы інфармацыі падчас працы над сваімі раманамі. Супрацоўнікі бібліятэкі паведамляюць, што сродкі пойдуць на алічбоўку рэдкіх калекцыйных выданняў, прысвечаных акультнай плыні «герметызм», якая згадвалася ў некаторых кнігах Браўна. У калекцыю ўваходзіць больш як чатыры тысячы рарытэтаў, большасць з іх выдадзеная да XIX стагоддзя. Вясной 2017 года іх можна будзе вывучаць анлайн.

• Манголія адмаўляецца ад паштовых індэксаў. Альтэрнатыву ім складзе новая сітэма адрасацыі *What3Words*, распрацаваная ў Брытаніі. Замест лічбавых абазначэнняў тут выкарыстоўваецца камбінацыя з трох слоў (усяго база мае 40 тысяч слоў), якая дазваляе вызначыць пункт знаходжання ў любым месцы свету. Асабліва зручная такая сіс-тэма для тых, хто не мае пэўнага паштовага адраса. Усяго на планеце такіх людзей каля мільярда. У самой Манголіі каля 25% насельніцтва складаюць качэўнікі-жывёлаводы.

• Прыватны выдавец Зміцер Колас заснаваў новую кніжную серыю «Паэты планеты». Першыя шэсць кніг — творы Сапфо, Петраркі, Рансара, Шэкспіра, Гётэ і Габрыэлы Містраль — ужо выйшлі з друку. Укладальнік абіраў найлепшыя пераклады на беларускую мову. Кнігі маюць зручны кішэнны фармат. У найбліжэйшы час плануецца выдаць зборнікі лірыкі Рыльке, Амара Хаяма, Катула, Гёльдэрліна, Каханоўскага, Апалінэра, Катры Валы. Усяго серыя мусіць уключыць каля 75 кніг.

• На Арбаце ўноч на 20 чэрвеня на «Сцяне Цоя» невядомыя пакінулі надпіс «Цой мёртвы». Па інфармацыі ананімнай крыніцы, знаёмай з ініцыятарамі акцыі, такім чынам падкрэсліваецца: гэтае месца ператварылася ў гарадскую язву, пункт збору маргіналаў і злачынцаў. Людзі, што збіраюцца каля Сцяны, паводзяцца непрыстойна, спажываюць алкаголь, брыдка лаюцца і такім чынам ганьбяць знакавае для субкультуры месца. Па меркаванні аўтараў акцыі, нельга шукаць апраўданне паводзінам у тым, што ты ўслаўляеш памерлага, які чакаў зусім не такіх перамен.

## Ідзе падпіска на II паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | 1 месяц (у новых цэнах) | Падпісны індэкс |
|---|---|---|---|
| *Для індывідуальных падпісчыкаў* | **37 400 руб.** | **3,74 руб.** | 63856 |
| *Ведамасная падпіска* | **104 000 руб.** | **10,40 руб.** | 638562 |
| *Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў* | **23 900 руб.** | **2,39 руб.** | 63815 |
| *Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі* | **78 600 руб.** | **7,80 руб.** | 63880 |

# На зрэзе памяці

**Несучы смерць, сама яна застаецца надзвычай жывучай. Вайна, бы тая чума, ахоплівае ўсё і ўсіх, дабіраецца ў непралазныя лясы, разбурае найпрыгажэйшыя гарады, спусташае ціхія вёскі. Беларуская літаратура пакінула багата сведчанняў пра Вялікую Айчынную. Але мы не спрабуем зрабіць агляд ваеннай беларускай літаратуры. Такая ўсеабдымнасць наўрад ці ўвогуле магчымая (што да газетнага фармату — несумненна). Але і кропкавых удараў па асобных творах дастаткова, каб паказаць, з аднаго боку, разнароднасць нашае літаратуры ў гэтым рэчышчы, а з іншага — чарговы (зусім не лішні!) раз засведчыць, што чужой вайны не бывае.**

## ГАНДЛЯРКА, ПАЭТ І МІНСК

Аповесць Івана Шамякіна «Гандлярка і паэт» з цягам часу робіцца ўсё больш актуальнай: сёння кожны трэці беларус (прынамсі, часова) жыве ў Мінску. Гэта адзін з нешматлікіх твораў, які дазваляе ўявіць беларускую сталіцу ў час Вялікай Айчыннай вайны. Па Камароўскім рынку ходзяць нямецкія салдаты, гараджане, якія жывуць побач, маюць добрыя агароды і гадуюць вепрукоў, на ўзбярэжжы Свіслачы побач з вёскай Дразды знаходзіцца лагер ваеннапалонных... Незвычайны Мінск зацікаўлівае з першых старонак не менш за галоўную гераіню, гандлярку Вольгу. Увішная, кемлівая Ляновічыха ўвасабляе тып актыўнай і практычнай жанчыны, які рэдка трапляў на старонкі беларускай прозы. Вобраз атрымаўся вельмі рэалістычным, хоць распрацоўка жаночага персанажа лічыцца няпростым выпрабаваннем для мужчыны-пісьменніка.

Больш характэрным для савецкай літаратуры паўстае ўзнёслы паэт-падпольшчык. Пад уплывам Алеся і яго сяброў Вольга пакрысе змяняецца. Зрэшты, нават без узрушаных прамоў і класічнай паэзіі хвацкая, але сумленная да людзей жанчына-маці наўрад ці засталася б лаяльнай да нямецкай улады,




угледзеўшы мех адзення забітых «юдзянят» пад задаволены смех немцаў і паліцаяў. Нянавісць да знічыцы — натуральная эмоцыя, якая не патрабуе доўгіх прадмоў, і менавіта таму тысячы беларусаў пачыналі змагацца...

## ВЫТАНЧАНАЯ І МУЖНАЯ

Сярод жаночых вобразаў у прозе Васіля Быкава беларускія чытачы найперш згадаюць рашучую Сцепаніду з аповесці «Знак бяды». Для еўрапейскага чытача самым запамінальным, верагодна, стаўся вобраз італьянкі Джуліі з «Альпійскай балады». Гарэзлівая чарнявая прыгажуня ўцякае з аўстрыйскага лагера разам з рускім салдатам Іванам — выбар галоўных герояў прадвызначыў шырокую папулярнасць аповесці ў Еўропе.

Далікатная, вытанчаная дзяўчына можа быць смелай і вытрыманай, ненавідзець ворагаў і адорваць пяшчотай вартага мужчыну-змагара. Разынкай твора стала размова Івана і камуністкі Джуліі пра савецкую рэчаіснасць — далёка не такую цудоўную, як гэта ўяўлялася дзяўчыне. Дзякуючы прывабнаму вобразу галоўнай гераіні аповесць маглі з аднолькавым захапленнем чытаць як былая ваенная медсястра ў СССР, так і французскі падлетак — невыпадкова «Альпійская балада» перакладзеная на 24 мовы!

## ВІНТОЎКА І ЗДРАДА

Сумленны і катэгарычны Сотнікаў, мужны і спакойны Пётра... Петрусю Броку падавалася, што гісторыя няўдалага паходу двух партызан па правізію атрымалася не вельмі гераічнай. Як для сучаснага чытача, гераізму ў творы хапае. Але ў першую чаргу «Сотнікаў» Васіля Быкава — аповесць пра жорсткасць вайны, калі за натуральнае жаданне жыць даводзіцца паступацца сумленнем. Фінал адлюстроўвае катэгарычны погляд на праблему суіснавання дабра і зла: нават вымушаны крок насустрач злу паўстае недаравальным учынкам.

Вядома, вайна, немцы, абставіны... Зрэшты, першае неабачлівае рашэнне прымае Сотнікаў: нягледзячы на хваробу, выпраўляецца разам з Рыбаком на заданне. Бадзёры і ахвочы да жыцця Рыбак спачатку імпануе больш, чым Сотнікаў. Але ў складанай сітуацыі вытрымка і прынцыповасць робяць мужчыну героем, а простае жаданне жыць ўласцівае баязліўцу...

Франтавік, супрацоўнік нямецкай паліцыі, партызан — у ваенныя гады лёс чалавека быў непрадказальным, і ў рамане В. Быкава «Кар'ер» з'яўляецца герой, які трапляе да партызан дзякуючы непрацягляй службе ў паліцыі. Калі партызаны не прымаюць людзей без зброі, як яшчэ дастаць вінтоўку ў невялікім мястэчку? Для Рыбака згода на супрацоўніцтва з немцамі была фатальным крокам, а для Сямёна Сямёнава — ці не адзіным магчымым сродкам у дасягненні мэты. Галоўны герой рамана ранены «начбой» Агееў апынаецца між двух агнёў: легалізуецца ў немцаў, каб дапамагаць падпольшчыкам, вымушана падпісвае распіску аб супрацоўніцтве з паліцыяй, што выклікае недавер у «сваіх» і штурхае героя на рызыкоўныя дзеянні. Згода на супрацоўніцтва паўстае не злачынствам і здрадай, а дапушчальным манеўрам у складанай сітуацыі. Таму «Кар'ер» чытаецца як своеасаблівы постскрыптум да «Сотнікава» — і згадка пра гэты раман падаецца абавязковай пры вывучэнні аповесці ў школе.

У «Кар'еры» Васіль Быкаў не толькі пераасэнсоўвае праблему «Сотнікава», але і звяртаецца да тэмы кахання: некалькі напружаных дзён, азначаных прадчуваннем трагічнай развязкі, робяцца шчаслівымі для галоўнага героя дзякуючы каханню маладзенькай Марыі...




## ЖАНЧЫНЫ ГАВОРАЦЬ

Кніга Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» па фармаце і агульнай задуме нагадвае «Блакадную кнігу» Алеся Адамовіча і Данііла Граніна: зборнік успамінаў «канкрэтных людзей», аб'яднаны агульнай тэмай. Тут — лёс жанчын на фронце. Кніга, напісаная праз сорак гадоў пасля заканчэння вайны, наўрад ці магла дадаць нешта істотнае да ўжо вядомых падрабязнасцей. Хутчэй за ўсё сабраныя Святланай Алексіевіч успаміны мусілі паслужыць увекавечанню памяці пра канкрэтных людзей і адначасова — вывучэнню асабліваў чалавечай, жаночай душы ў нечалавечых умовах.

Гераіні кнігі не распавядаюць усёй праўды (што натуральна), засцерагаючы і слухача, і будучага чытача; і, разам з тым, не заўсёды здольныя падзяліць падзеі, якія адбыліся з імі асабіста і тыя, пра якія яны чулі або чыталі. У той жа самы час аўтар, сцвярджаючы, што «дамагаецца праўды», у рэчаіснасці не ставіць перад сабой мэты праўду «ўстанавіць»: параўнаць, напрыклад, апавяданні франтавічак з архіўнымі дакументамі або супаставіць розныя версіі адной і той жа гісторыі ці падзеі. Праўда ў гэтым выпадку не тоесная ісціне, а з'яўляецца сінонімам слова «сапраўднасць».

## ГРАМАДЗЯНЕ ВАЙНЫ

Горад і вёска, багатыя і бедныя, жанчыны і мужчыны. У час вайны звыклая розніца ператвараецца ў непераадольны кантраст. Назіраць за гэтым можна бясконца: матэрыялу (твораў пра Вялікую Айчынную) хапае. Але можна абмежавацца адным тэкстам — аповесцю Лідзіі Арабей «На другой зіме вайны».

Адносна невялікі празаічны твор паказвае дастаткова для таго, каб зразумець, у якіх умовах жылі (а лепей сказаць, выжывалі) гараджане і вяскоўцы. Як мужчына, ідэальны вобраз якога апісваць не трэба, насамрэч можа аказацца, і часцей за ўсё аказваецца, зверам — толькі па праве грубай сілы. І тут жа — два тыпы людзей: сумленныя і праз тое галодныя, адкінутыя на збочыну жыцця, і прадажныя ды выкрутлівыя мікіты зносакі, якія, відаць, не звядуцца ніколі.

Лідзія Арабей найперш майстар псіхалагічнай прозы. Яна выдатна разумее свайго героя і, што найбольш значна, дакладна ведае, якім словам гэты стан перадаць. Лаканічны аўтар, які мае дар мысліць дастаткова ясна, а значыць, пазбягаць лішніх апісанняў. У выніку чытач захоплены дзеяй, хоць яна і самая шараговая, вельмі зямная: дзяўчына ідзе з разбуранага, галоднага Мінска ў вёску, каб выменяць апошнія прыгожыя рэчы ды іншае на нешта ядомае. Працьму сілаў адбірае дарога, у якой Ніне то шанцуе, то не; зімовыя вёрсты даюцца ёй як Галгофа, толькі гэты шлях да выратавання не такі метафарычны. Тут усё проста: дойдзеш — сям'і будзе што есці, а як не…

Голы пералік герояў можа стварыць уражанне штучнасці. Быццам бы Лідзія Арабей сабрала іх, каб аповесць стала глыбейшай, «шматвектарнай»: прагныя, разбэшчаныя немцы і іх строгія начальнікі; хворая цяжарная жанчына, на шыі ў якой — няўдалы сын і дзве дачкі; брыдкая дачка паліцая (разам з гарадскімі суседзямі Ніны яна прадстаўляе «багатых»); выпадковыя спадарожнікі і мінакі, што не страцілі яшчэ здольнасці спачуваць; змучаныя жанчыны, якім, нягледзячы ні на што, хочацца быць прыгожымі; былы оперны спявак, што стаў партызанскім сувязным… У кантэксце твора ўсе яны, без выключэння, выглядаюць арганічна, кожны на сваім месцы.

І, як ні сумна пра гэта казаць, натуральнасць аповесці дадае фінал — зусім не шчаслівы.

## КНІГА ФЕНІКС

Уладальнікаў гэтых успамінаў даўно няма на свеце. Няма і тых, хто ўспаміны збіраў, вандруючы ад вёскі да вёскі, па крупінках збераючы чалавечую памяць, перажыванні, сведчанні. Тры сябры, тры пісьменнікі, тры партызаны: Алесь Адамовіч, Уладзімір Калеснік, Янка Брыль.

«Я з вогненнай вёскі...» — дакументальная трагедыя, кніга-памяць, жывы голас людзей, што былі спаленыя, забітыя разам з сям'ёй, разам са сваёй вёскай і якія — выжылі. На шляху збіральнікаў памяці шмат было і такіх вёсак, дзе не ацалеў




ніхто. На старонках гэтай кнігі сабраліся людзі, што выйшлі з агню, з-пад зямлі. І гэта — у самым рэальным, не пераносным сэнсе. Людзі з вогненных вёсак сведчаць, пытаюцца, судзяць, распавядаюць пра тое, што ведаць — страшна, а забыцца — небяспечна.

## ВЕЧНАЯ ТЭМА

Апошняя вайна, якая самым непасрэдным чынам закранула Беларусь, дагэтуль крывавіць. Нягледзячы на тое, што пасля яе заканчэння ўжо мінула больш як 70 гадоў. Не ўсе раны загоеныя, не ўся праўда сказаная. Тэма Вялікай Айчыннай вайны стала «вечнай» для беларускай паэзіі. Здаецца, што пра гэта можа напісаць сённяшні малады аўтар?.. Але вершы ваеннай тэматыкі з'яўляюцца зноў і зноў. Сучасная паэзія імкнецца асэнсаваць вайну, выпрацоўваючы новыя крытэрыі, межы і прыярытэты, за якімі прагглядаюцца неабсяжныя гарызонты спасціжэння лёсу чалавека і яго прызначэння ў няспынным руху часу і зменлівым свеце. Вайна настолькі глыбока ўвайшла ў нашу падсвядомасць, што, здаецца, памяць запісаная на генетычным узроўні. Магчыма, гэтым можна патлумачыць спробы сучасных паэтаў пісаць пра Вялікую Айчынную вайну, якую бачылі толькі ў кнігах, фільмах, на фотаздымках.

Шмат хто піша на ваенную тэматыку. Але сапраўды кранаюць — адзінкі. Так, напрыклад, гістарычная адукацыя дапамагае паэту Антону Рудаку ствараць дасканалыя вобразы зруйнаванага бамбёжкамі Мінска, якія працінаюць рэалістычнасцю. Творца з Магілёва Аляксей Карпенка распавядае ў сваіх вершах пра дняпроўскі боль і яго крывавыя хвалі, а Людміла Паўлікава апісвае лясны побыт партызанаў Клічаўшчыны. Нават у беларускай паэтэсы іспанскага паходжання Анхелы Эспіносы ёсць вершы пра вайну: хоць і з мадрыдскім каларытам, яна паўсюль аднолькава жахлівая. Адрознівае ж сённяшняе літаратарскае пакаленне ўсведамленне таго, што на вайне няма добрых і дрэнных, усе аднолькава вінаватыя, таму адзіны шанец не паўтарыць гэтай трагедыі — памятаць.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ, Дар'я ЛАТЫШАВА, Наста ГРЫШЧУК**

# Літаратуры патрэбна мужнасць

**Гартаю старонкі кнігі Веніяміна Каверына «Літаратар», якая выйшла ў свет у 1988 годзе. Вядомы рускі пісьменнік праз усё жыццё быў надзвычай уважлівы да сваёй творчай лабараторыі. І, як мне асабіста падаецца, яго кнігі «Вячэрні дзень», «Пісьмовы стол», «Эпілог» чытаюцца не меней цікава, чым «Адкрытая кніга» і іншыя раманы.**

У «Літаратара» ёсць падзагаловак: «Дзённікі і лісты». А артыкул, які адкрывае кнігу, так і называецца: «Дзённікі і лісты». «*У рамане "Здзяйсненне жаданняў"*, — пачынае свайго «Літаратара» Веніямін Каверын, — *я пісаў пра тое, наколькі захапляльная праца ў архіве. Жыццё, аддзеленае ад нас дзесяцігоддзямі, паўстае ў новым, часам знакавым для сучаснікаў святле…*». І далей: «*Мяркуйце самі, якія нечаканасці падсоўвае вам спроба зазірнуць ва ўласны архіў, пра які я, на вялікі* жаль, пачаў непакоіцца вельмі позна…».

З Васілём Быкавым, савецкім пісьменнікам другога, адрознага ад яркага прадстаўніка «Серапіёнавых братоў», пакалення савецкіх літаратараў, Веніямін Аляксандравіч пазнаёміўся на сваё вочы ў 1972 годзе. 2 кастрычніка 1972 года В. Каверын піша аўтару «Трэцяй ракеты»: «*Дарагі Васіль Уладзіміравіч! Дзякуй, дзякуй Вам за кнігу, за ліст, за ўдалы фотаздымак. Згадваючы зараз пра Ялту, я бачу, што маёй галоўнай удачай было знаёмства з Вамі. Вы пішаце, што Вы — не вельмі дасведчаны літаратар. Толькі пасля знаёмства з Вамі, я веру, што гэта не "смирение паче гордости". Досвед — справа, якая з часам набываецца, і ён, дарэчы, ёсць у Вас. Але што ён значыць у параўнанні з Вашым задушэўным і высакародным талентам?*

*Пасылаю Вам мой раман і вельмі спадзяюся хутка пабачыцца з Вамі. Не ведаю, дзе і як, але абавязкова, абавязкова…*»

Але ж у іх былі і ранейшыя стасункі. Няхай сабе і завочныя. 28 кастрычніка 1969 года Васіль Быкаў (цытую гэты ліст па кнізе В. Каверына «Пісьмовы стол») піша рускаму пісьменніку ў адказ на яго ліст:

«*Дарагі Веніямін Аляксандравіч!*

*Дзякуй Вам за Ваша разумнае і сяброўскае пісьмо, атрымаць якое мне было вельмі радасна. Вы правыя: служэнне праўдай — абавязак літаратуры, вось толькі бяда ў тым, што ва ўсе часіны для людзей не было нічога болей нежаданага, чым праўда, якая трывожыць іх спакой, праўда, якой яны без хістанняў палічылі за лепшае салодкі дурман маны. Рэалістычнае мастацтва нічога так не патрабуе, як праўды, але ў той самы час нішто для яго так дорага не абыходзіцца, як гэтая самая праўда.*

*Мне цяжка вызначыць вартасці маёй аповесці — аўтару, як вядома, шмат лепей відаць недахопы свайго твора — я проста хацеў выказаць у ёй маленькую часцінку вялікай праўды пра вайну, так бы мовіць прыватны факт, выпадак, калі заўгодна. Што з гэтага атрымалася — не ведаю. Але людзі, якіх я паважаю і чыё меркаванне прызвычаіўся цаніць, убачылі ў ёй нешта — дзякуй ім.*

*Я даўно ведаю і цаню Вашы кнігі, схіляюся перад Вашай прынцыповасцю ў вялікіх пытаннях жыцця. Цяпер да ўсяго гэтага дадаецца яшчэ маё шчырае пачуццё ўдзячнасці за добрыя і мудрыя словы Вашай далучанасці.*

*Дай бог Вам здароўя!*

*З павагай В. Быкаў*».

В. Каверын пісаў Быкаву пра «Сотнікава». Відаць, следам за прачытаннем аповесці ў рукапісе. Магчыма, далі пазнаёміцца ў рэдакцыі «Нового мира». Бо надрукаваны ў часопісе твор быў толькі ў 1970 годзе…

У «Літаратары» нарыс «Васіль Быкаў» пачынаецца разглядам аповесці беларускага пісьменніка «Круглянскі мост». Затым — размова пра «Сотнікава». І далей — наступны абзац: «*Пераказваць аповесці Быкава — дарэмна. Калі Талстога папрасілі пераказаць "Ганну Карэніну", ён адказаў, што, калі б можна было гэта зрабіць, ён напісаў бы гэты пераказ, а не стаў бы працаваць над раманам*». І яшчэ: «*Нечаканасць становішчаў, у якія трапляюць героі, уражвае. Дзеянне разгортваецца з небяспечнай імклівасцю, чым бліжэй да канца, тым хутчэй. І пачынаеш разумець, што яно павінна разгортвацца менавіта так, а не інакш. Менавіта так, таму што ў прозе Быкава дзеянне — незаменны і галоўны бок сюжэта, які дапамагае аўтару намаляваць характар. Не развагі, не размовы, не ўнутраны маналог, а дзеянне. Твар да твару пастаўлены чалавек і страх, які трэба пераадолець, каб не загінуць. У такіх абставінах толькі дзеянне можа паказаць, на што здольны чалавек, які ён, да чаго ён імкнецца…*».

Веніямін Каверын і сам шмат бачыў на вайне. Канечне, не ў такой ступені, як капітан Васіль Быкаў. У час Вялікай Айчыннай вайны Каверын працаваў на Паўночным фронце. Збіраючы матэрыялы для другой кнігі рамана «Два капітаны», наведваў асноўныя злучэнні флоту. Назіраў і вывучаў баявую работу маракоў. Шмат гутарыў з матросамі і афіцэрамі. Быў узнагароджаны за актыўную публіцыстычную дзейнасць у час вайны ордэнам Чырвонай Зоркі.

А ў чэрвені 1983 г. В. Каверын адгукаецца лістом да Васіля Быкава на прачытанне яго рамана «Знак бяды»: «*Я прачытаў Ваш новы раман "Знак бяды" і падумаў, што мне абавязкова патрэбна напісаць Вам. Я чытаў і высока цаню ўсё, што Вы да гэтага часу надрукавалі (ці амаль усё, таму што ад Жураховіча я ведаю, што адзін Ваш раман не перакладзены на рускую мову). Але і "Знака бяды" дастаткова, каб пераканацца ў тым, што Вы зрабілі крок далёка наперад у параўнанні з Вашымі ранейшымі рэчамі, у якіх ("Сотнікава" я лічу шэдэўрам) Вы ставілі больш вузкую, хаця і глыбокую задачу. У "Знаку бяды" Ваша задума тлумачыць (наколькі гэта было магчыма) прычыны нашых магчымых і немагчымых цяжкасцяў, з якімі даводзіцца змагацца да гэтага часу не пакладаючы рук. Гэта — новае і смелае і незвычайна праўдзівае. Характары выпісаны свабодна. І дзіўна, як добра пераклалі Вы Вашу кнігу: руская літаратурная мова ў ёй бездакорная. Словам, ад усяе душы віншую Вас і калі б хапіла смеласці, падзякаваў бы Вам ад імя нашай літаратуры, якая востра чакае мужнасці, а Вам яе не займаць!..*».

Васіль Уладзіміравіч у хуткім часе адказаў Веніяміну Каверыну, бо 27 ліпеня 1983 года рускі пісьменнік ізноў піша Быкаву. У Каверына ў 1983 годзе выхо-дзіць раман «Навука развітання», у якім расказваецца гісторыя ваеннага карэспандэнта на Паўночным флоце ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Перапіска В. Каверына і В. Быкава доўжылася і далей. 27 ліпеня 1983 года Веніямін Аляксандравіч піша ў адказ на ліст беларускага калегі. «*Не магу перадаць Вам, як я быў усхваляваны і ўзрадаваны Вашым пісьмом. Я адчуў, што Вы атрымалі радаснае пачуццё, калі чыталі мой раман, а я па сабе ведаю, наколькі важная і дарагая мне ўдача блізкага па духу пісьменніка, кожны твор якога ўзбагачае нашу літаратуру. Размова, зразумела, ідзе пра маральную пазіцыю, пра якую так павярхоўна гавораць нашы крытыкі і якая ў глыбіні з'яўляецца асновай кожнай удачы…*».

Былі і яшчэ лісты — ад 19 верасня 1984, 16 мая 1985, 15 лістапада 1985… У апошнім з іх В. Каверын пераканаўча напісаў, што «прагматызм не вечны», што ён пярэчыць самой прыродзе мастацтва, якое павінна ўсё ж такі «ўзяць верх». Дзеля гэтага яны абодва — В. Каверын і В. Быкаў — працавалі ў савецкай літаратуры ў самыя няпростыя часы. І зрабілі ўсё, што маглі, напоўніцу выявіўшы лепшыя маральныя, духоўныя якасці мастакоў слова, грамадзян сваёй Айчыны…

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Не згарэць — загартавацца!

**Рукапісы не гараць. Не згасаюць і таленты. Яны толькі загартоўваюцца. Загартоўваюцца тымі нягодамі, якія выпадаюць на іх долю. Цэлая кагорта такіх пісьменнікаў выжыла ў полымі Вялікай Айчыннай вайны. І як тут не згадаць паэта Аляксандра Суслава (1922 — 2013), празаіка Алеся Савіцкага (1924 — 2015), іншых выбітных прадстаўнікоў ліхалетнага пакалення…
Шмат хто адышоў у Вечнасць, але творы гэтых аўтараў не страчваюць актуальнасці і сёння. А празаікі Уладзімір Федасеенка і Міхась Даніленка, паэты Іван Муравейка, Мікалай Іваноў, Ала Чорная, Мікола Аўрамчык ды іншыя і ў нашы дні працягваюць плённа працаваць на ніве айчыннай літаратуры.**




Калаж Віктара Калініна.

Уражвае паэзія Міколы Аўрамчыка. У Вялікую Айчынную вайну Мікола Якаўлевіч удзельнічаў у баях на Паўночна-Заходнім і Волхаўскім франтах. У чэрвені 1942 г. быў узяты ў палон. Вызвалілі толькі ў 1945-м... Захопнікі вывезлі яго ў Рур — на каменнавугальныя шахты. Менавіта адтуль з'явілася ў творчасці паэта «паўзмрочная капальня ў дымным Руры». І чаму «сэрца птушкай раненай трапеча, / Гарачай абліваецца крывёй»?..

«На фронце быў акопнікам-салдатам, / Сябе за спіны іншых не хаваў…» Гэта радкі з аўтабіяграфічнага пасляваеннага верша Івана Муравейкі «Пра сябе». Сёння Іван Андрэевіч, ураджэнец вёскі Таль Любанскага раёна Мінскай вобласці, жыве на Міншчыне, у г. Любань. Аўтар кніг вершаў для дзяцей «Ручаінкі» (1956), «Сем колераў вясёлкі» (1965), «Растуць дзеці» (2011) ды інш. А ў далёкім 1939-м яшчэ студэнтам Мінскага камуністычнага інстытута журналістыкі быў прызваны ў Чырвоную Армію. Падчас Вялікай Айчыннай — удзельнік баёў на Заходнім, Данскім, 3-м Украінскім і 1-м Беларускім франтах, а ў 1945 — 1947 гг. служыў у Германіі — у складзе Цэнтральнай групы войск. Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны І (двойчы) і ІІ ступені, Чырвонай Зоркі. Боль успамінаў пра вайну назаўжды застанецца ў яго кнігах «Прынёс з вайны» (1991), «Была вайна» (2009), «Я — Іван з Беларусі» (2014).

Не маўчаў пасля вайны і талент Міхася Даніленкі. Кніга прозы для дзяцей «Вернасць слову» (1956), зборнікі аповесцей і апавяданняў «Майская навальніца» (1959), «Жураўлі» (1980), «Родная зямля» (1982) — вось толькі невялікая частка літаратурнай спадчыны пісьменніка, ураджэнца Лоеўшчыны, які ваяваў на Паўночна-заходнім фронце, быў кантужаны, трапіў у палон, уцёк адтуль і ў жніўні 45-га вярнуўся ў войска. Вайна паказваецца аўтарам праз прызму ўспрымання юнака, які, нягледзячы на ўзрост, добра ўсведамляе, што галоўнае — застацца чалавекам.

У цэнтры ўвагі Уладзіміра Федасеенкі (які сёлета адзначыў 90-годдзе) — жыццё моладзі падчас Вялікай Айчыннай вайны, роля маладога пакалення ў барацьбе супраць акупантаў. У вобразе галоўнага героя раманаў «Дубовая града» і «Віхры на скрыжаваннях» Валодзі Байкача ўвасоблены лёс моладзі — соцень тысяч юнакоў і дзяўчат, якія ўсімі сіламі набліжалі Дзень Перамогі. Падзеі Вялікай Айчыннай адлюстраваны і ў рамане «Мутныя росы», у якім ахвярай чорнага крыла вайны паказана і экалогія палескага краю.

Таксама аўтабіяграфічны зборнік лірыкі паэта Мікалая Іванова «Маю слова». «Юность птицею летела — / и всё мимо, стороной… / В одночасье поседела, / опалённая войной». Колькі пранізлівага пачуцця ў гэтых радках франтавіка, палкоўніка ў адстаўцы, удзельніка штурму Берліна, кавалера пяці ордэнаў, які амаль чатыры дзясяткі гадоў прысвяціў службе ва Узброеных Сілах!

«… Обстрел над Ленинградом… / И мороз. / И продолжается блокада…» Змрочныя карціны паўстаюць у памяці паэтэсы Алы Чорнай, якая пяцігадовай дзяўчынкай апынулася ў гэтым пекле разам з маці. У іншым яе вершы са зборніка лірыкі «Люстэрка» — «…бант / И тёмная чёлка. / Блокада. Война. / И девочка эта — / Я…»

А яшчэ паэтэса сцвярджае: «У памяти пути особые… Она хранит всегда немногое…» Але ўспаміны пра трагедыю Вялікай Айчыннай вайны — не страціць. Ніколі.

**Яна ЯВІЧ**

# Як адкрывалі Багдановіча,

## альбо Гісторыя аднага навукоўцы

**Пачатак багдановічазнаўства быў закладзены яшчэ ў 1910-я гады. Але першай дысертацыяй, абароненай па творчасці Багдановіча, была работа беларускага даследчыка Рыгора Самуілавіча Жалезняка (1914 — 1942). Сёлета ўнікальная работа адзначае 75-годдзе. Лічы, юбілей багдановічазнаўства. Каштоўнасць дысертацыі складана перабольшыць: у працэсе яе падрыхтоўкі Рыгор Жалязняк карыстаўся архівам М. Багдановіча, які пазней, у час Вялікай Айчыннай вайны, быў страчаны. Сам даследчык загінуў на фронце праз год пасля абароны.**



Малюнак Алесі Ісы.

### УРАТАВАНЫ СКАРБ

Жыццё Жалезняка было кароткім, але натхнёным служэннем Бацькаўшчыне. Вывучаючы яго біяграфію, міжволі згадвала запавет Максіма Багдановіча:

*Калі хочаш праўдзіва ты жыць, дык пей чару любую,*
*Але толькі да дна.*

«Credo»

Нарадзіўся Рыгор Самуілавіч у 1914 годзе ў сям'і рабочага. Скончыўшы сямігодку, вучыўся ў Віцебскім фабрычна-заводскім вучылішчы чыгуначнікаў, працаваў у дэпо, а пазней — у газеце «Віцебскі пралетарый». У 1932 — 1933 гадах вучыўся ў Віцебскім кінатэхнікуме на сцэнарным аддзяленні. Пасля паступіў у Ленінградскі інстытут гісторыі, філасофіі, літаратуры і лінгвістыкі, але ў 1936-м пераводзіцца на філалагічны факультэт Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Там жа паступіў у аспірантуру.

Рыгор Жалязняк пісаў вершы, апавяданні, нарысы, якія друкаваліся ў газеце «Віцебскі пралетарый» і часопісе «Штурм». У Віцебску выйшаў зборнік вершаў «Першы вытап» у суаўтарстве з Б. Люгоўскім, а пасля і ўласны зборнік паэзіі «Вясковыя будні» (1934 г.).

Якраз у канцы 1930-х Жалязняк распачаў даследаванне творчасці Максіма Багдановіча. Аднак гэты час азначаны заняпадам багдановічазнаўства. У крытыцы панаваў так званы «класавы аналіз» літаратуры. Толькі адзінкавыя публікацыі пра М. Багдановіча ў Заходняй Беларусі і Маскве былі пазбаўлены вульгарызатарскіх уплываў.

Навуковым кіраўніком маладога даследчыка стаў Барыс Эйхенбаум. Ёсць меркаванне, што ён і абудзіў цікавасць Рыгора да творчасці паэта. Але не выключана, што Жалязняк быў зачараваны паэзіяй Багдановіча і раней. На сцэнарным аддзяленні Віцебскага кінатэхнікума, дзе Жалязняк вучыўся, беларускую літаратуру выкладала паэтэса Зінаіда Бандарына. Па ўспамінах сучаснікаў, яна адразу заваявала ўвагу слухачоў. Асабліва цікава было на занятках, дзе яна распавядала пра паэзію. Дый у Ленінградскім універсітэце выкладалі даследчыкі з Беларусі: Барыс Іофе, Дзмітрый Савановіч, Міхась Смолкін.

З улікам таго, што пры падрыхтоўцы дысертацыі Р. Жалязняк карыстаўся архівам паэта, у рабоце маладога даследчыка ёсць матэрыялы, якія на той момант не ўвайшлі ні ў адно з выданняў твораў М. Багдановіча. Напрыклад, шэраг варыянтаў твораў і накіды новых вершаў Багдановіча. У архіве паэта быў аркуш з двума радкамі чарнавых накідаў: «Маць-Беларусь! *Цяжка твайму сыну / Глядзець на родны край...*». Рыгор Жалязняк знайшоў наступныя, невядомыя раней трагічныя радкі Максіма Багдановіча: «*Не бядуй, што хмары / Сонца свет схавалі...*».

У аўтографе верша «Як Базыль у паходзе канаў» ёсць радкі, якія не ўвайшлі ў канчатковы тэкст і не былі паказаны ў каментарыях да першага тома твораў Багдановіча за 1927 год:

*І я адну сабе радачку даў,*
*У боты роднай зямелькі паклаў.*
*Там ці жыць мне давядзецца, ці канаць,*
*Але буду на сваёй зямельцы стаяць.*

У тэксце дысертацыі Рыгор Жалязняк прывёў радкі жартоўнай паэмы Максіма Багдановіча «Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык», якія не ўвайшлі ў канчатковы варыянт твора; пераклад на рускую мову верша Янкі Купалы «Для зямлі маіх прадзедаў» — «Для тебя, предков моих»; рускі варыянт верша «Гутарка з паненкамі», знойдзены ў чарнавіках паэта; урывак артыкула «Вобразнасць апісанняў у вершах В. Дуніна-Марцінкевіча» з чарнавых накідаў паэта, няскончаны артыкул пра частушкі і пра казкі, чарнавы накід паэта пра пошук метадаў і крытэрыяў крытыкі, а таксама датычна розніцы паэтычнага і празаічнага апісанняў у мастацкіх творах. Жалязняк прывёў і прааналізаваў канкрэтныя крытычныя выказванні паэта, узятыя з яго чарнавых накідаў. А таксама — упершыню! — надрукаваў некаторыя лісты супрацоўнікаў рэдакцыі «Нашай Нівы» да Максіма Багдановіча, якія паўплывалі на станаўленне яго як паэта.

Менавіта з тэксту дысертацыі Жалезняка ў друк трапілі некаторыя творы Багдановіча і ўрыўкі з лістоў, якія ў іншым выпадку маглі б застацца невядомымі.

### ПАРАЛЕЛІ

Шырокая дасведчанасць у рускай і сусветнай літаратуры дала Жалезняку магчымасць правесці паралелі між творчасцю Багдановіча і іншых паэтаў. Даследчык знаходзіць перагукванні з А. Белым: так, існуе падабенства ў тым, як яны раскрываюць тэму старасці. Даследчык адзначыў, што творчасць Багдановіча перагукаецца з творчасцю І. Цютчава ў тэме далучэння да жыцця і яго сакральных таямніц, у тэмах трагізму і гібелі. У абодвух творцаў шмат дзе гучыць матыў разбітых, страчаных надзей. Ёсць у Багдановіча агульныя матывы і з І. Буніным. А ў раскрыцці тэмы радзімы, як лірычнай, інтымнай, Багдановіч, на думку Жалезняка, нагадвае А. Блока. Даследчык адзначыў уплыў на творчасць Максіма Багдановіча В. Брусава і Э. Верхарна, а таксама Ш. Бадлера і Эрэдыа, што адбілася на агульным характары вершаў.

Рыгор Жалязняк звярнуў увагу на цікавасць Максіма Багдановіча да творчасці паэтаў-дзекабрыстаў, акрэсліў кола літаратурных прыхільнасцей Багдановіча ў рускай літаратуры: гэта М. Ламаносаў, А. Пушкін, М. Лермантаў, Я. Баратынскі, К. Рылееў, А. Адоеўскі, І. Цютчаў, А. Фет. Ён каментуе ўзаемадачыненні М. Багдановіча з паэзіяй сімвалізму, вызначае ў тым ліку, што паэт лічыў непрымальным. Навуковец асобна адзначае ўплыў маладога супрацоўніка «Нашай нівы» Сяргея Палуяна. Менавіта Жалязняк асвятліў гісторыю з'яўлення твораў паэта-пачаткоўца на старонках выдання, ахарактарызаваў палеміку «Нашай нівы», якую яна вяла з іншымі выданнямі («Крестьянин», «Северо-западный голос», «Речь», «Виленский вестник») і ролю ў ёй М. Багдановіча.

### ПЕРШААДКРЫВАЛЬНІК

Вядома ж, Рыгор Жалязняк даследаваў адзіны прыжыццёвы зборнік М. Багдановіча «Вянок». Ён звярнуў увагу, што паэт раскрывае грамадска-палітычную тэму як сацыяльную, паказвае трагізм асобы і прычыны. Трапна адзначыў, што паэт не толькі ўнутры цыклаў карыстаўся метадам кантрастаў, але і ў самым іх размяшчэнні выкарыстаў гэты метад. Зрабіў шэраг высноў, цяпер агульнапрынятых: што Багдановіч увёў зусім новую для беларускай літаратуры тэму горада, першым пачаў культываваць форму санета, зрабіў скразны ў зборніку матыў ахвярнасці.

Даследчык вельмі тонка адчуў мастацкі свет М. Багдановіча, паказаў развіццё яго паэзіі (чаго раней ніхто не рабіў): ад вершаў вытанчана-эстэтычных форм да напоўненасці іх фальклорнымі матывамі і нацыянальным беларускім характарам. Жалязняк умоўна падзяліў паэзію Багдановіча на два этапы: 1909 — 1913 і 1914 — 1917 гады. Якраз на другім этапе паэт зрабіў спрадвечныя беларускія тэмы асноўнымі ў сваёй творчасці. Гэта перыяд максімальнага ўплыву на яе беларускага фальклору. Праз прынцыпы фалькларызму ў гэты перыяд галоўнай тэмай для Багдановіча сталася тэма стварэння беларускага нацыянальнага характару.

Што да празаічных твораў Багдановіча, даследчык адзначыў: іх ідэяй з'яўляецца сцвярджэнне «пераўтваральнай сілы мастацтва». Сам Багдановіч ставіўся да творчасці як да «цяжкай працы», канстатаваў Жалязняк.

Даследчык глыбока прааналізаваў і пераклады Багдановіча, і яго крытычныя ды публіцыстычныя артыкулы. На аснове чарнавых накідаў і крытычных артыкулаў Жалязняк выявіў, што на фарміраванне поглядаў Багдановіча значны ўплыў зрабіў нямецкі філосаф і псіхолаг Морыс Лацарус, а таксама — што імкненне да дакладнай крытыкі Багдановіч пераняў у А. Белага. Даследчык адзначыў, што пафасам крытычнай дзейнасці паэта быў «пафас асветы, пашырэння рамак беларускай літаратуры, узбагачэння яе новымі формамі і тэмамі».

Рыгор Жалязняк паказаў творчасць Максіма Багдановіча ў кантэксце беларускага літаратурнага працэсу канца XIX — пачатку XX стагоддзя, адзначыў яго ролю ў гісторыі беларускай літаратуры як ролю першаадкрывальніка новых, нязнаных раней тэм і мастацкіх форм, прааналізаваў погляды М. Багдановіча датычна перспектыў беларускай літаратуры і ўмоў яе росквіту. «Непадзельная аддача сябе і сваёй творчасці агульнаму служэнню — такія прынцыпы Максіма Багдановіча. Яго паэзія — паэзія самых шчырых пачуццяў і перажыванняў. Таму творчасць Максіма Багдановіча ёсць прыклад вялікага подзвігу, які ва ўмовах Беларусі з'яўляецца хіба не адзіным па сваім высокім трагічным пафасе і значэнні», — падсумоўвае Рыгор Жалязняк.

### АБАРОНА

Ён вывучаў успаміны сяброў, знаёмых, калег па пяры Максіма Багдановіча, перапісваўся са Змітраком Бядулем. У БДАМЛіМ захоўваецца ліст Р. Жалезняка да Паўла Адамавіча Багдановіча, зводнага брата Максіма Багдановіча, ад 20 верасня 1940 года. Малады даследчык меркаваў, што ў Паўла Адамавіча могуць захоўвацца рукапісы, чарнавікі, лісты, кнігі паэта, а таксама ўспаміны яго яраслаўскіх сяброў братоў Залатаровых і М. Агурцова, і ў такім выпадку прасіў дазволу азнаёміцца з гэтымі матэрыяламі з мэтай напісання першай навуковай манаграфіі пра Максіма Багдановіча.

Застаецца здзіўляцца працаздольнасці даследчыка і хуткасці, з якой ён працаваў: кандыдацкая дысертацыя Рыгора Жалезняка «Паэзія М. А. Багдановіча» была абаронена ў Ленінградскім універсітэце 24 чэрвеня 1941 года. 2 ліпеня вучоны савет ЛДУ зацвердзіў яго ў навуковай ступені кандыдата філалагічных навук.

Пачалася Вялікая Айчынная вайна.

Малады даследчык меў адтэрміноўку ад службы па стане здароўя, але палічыў сваім доўгам адправіцца на фронт. Прызваўшыся ў армію, Р. Жалязняк ваяваў на Ленінградскім, а пасля на Волхаўскім фронце, быў камандзірам мінамётнай батарэі. Старшы лейтэнант Рыгор Самуілавіч Жалязняк загінуў у жніўні 1942 года ў раёне станцыі Мга ў Ленінградскай вобласці.

***

Абараняліся дысертацыі па творчасці Максіма Багдановіча, выяўляліся і друкаваліся новыя аўтографы беларускага генія, але даследаванне Рыгора Жалезняка не страціла актуальнасці і цікавасці па сёння. Яго работа — адно з найлепшых дасягненняў багдановічазнаўства.

Тэкст навуковай дысертацыі захоўваецца ў БДАМЛіМ. Цалкам ён быў надрукаваны ў крытыка-архіўным зборніку «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы» (Мінск, 2011). Уклаў і пракаментаваў зборнік Ціхан Чарнякевіч.

Ёсць меркаванне, што ў тэкст дысертацыі трапілі не ўсе матэрыялы з архіва Максіма Багдановіча, якімі карыстаўся Рыгор Жалязняк. Пэўна, частка іх засталася ў чарнавіках вучонага. Гэты кірунак адкрывае новыя перспектывы ў пошуках страчанай спадчыны беларускага генія.

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

# Чароўныя лекі Паэзіі

**Больш за 20 гадоў жывучы па-за межамі сваёй Радзімы, імкнуся пры любой нагодзе пачуць родны голас, даведацца, што ж новага з'явілася ў нашай літаратуры, музыцы, выяўленчым мастацтве. Самыя дарагія кнігі са мной ва ўсіх падарожжах, у розных кутках зямлі. Таму, напэўна, адгукаецца ў душы голас лірычнай гераіні вершаў Лэйлы Аліевай (кніга «Ліст» выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», пераклады на беларускую — Таццяны Сівец) у расстанні з родным горадам выдыхае кранальнае прызнанне:**

*Сніцца горад стары мне, і Каспія хвалі,*
*І халодны Хазры, і пяшчотны Гілвар…*
*Ты пакліч мяне, буду я госцяю званай,*
*О мой родны Баку, darıxdım neyi var...*

*Каб зберагчы хоць кроплю веры,*
*Дабру ўкладзеш ты ў рукі меч,*
*Яно глядзіць іклкастым зверам*
*І злом стаецца неўпрыкмет.*

Я таксама сумую па Баку. Але, гартаючы гэты зборнік, вы адчуеце, што сум можа быць і светлы, і цёплы, і пранізлівы — як сум па тым, хто не вернецца, але назаўжды застанецца ў памяці:

*Калі б вецер спяваў тую песню,*
*Што хаваю на донцы душы,*
*Ты адчуў бы мой смутак балесны*
*І пачуў, як хачу, каб ты жыў.*

Так, у вершах гэтага зборніка аўтар перадае любоў да чалавецтва, шчырыя і чыстыя пачуцці людзей адно да аднаго, дорыць сэрцам цеплыню:

*Даруем крыўды, станем ля дзвярэй.*
*І зробімся тады чысцей і лепей.*
*О людзі, вас прашу любіць людзей,*
*А час — хай лечыць!*

Наогул, філасофскія развагі паэтэсы ўражваюць глыбінным асэнсаваннем разбуральных працэсаў, якія адбываюцца сёння ў душах людзей, калі часам у імя высокіх ідэалаў здзяйсняюцца брудныя ўчынкі, калі само паняцце маралі падмяняецца на яе процілегласць. Як трапна гучыць, прыслухайцеся:

Л. Аліева мае надзвычай востры паэтычны позірк. Яна заўважае ў наваколлі тыя дэталі, міма якіх мы звычайна праходзім не азіраючыся…

Талент праяўляецца незалежна ад асобы заўжды і паўсюль. Кожны раз, калі чытаю вершы Лэйлы Аліевай, бачу, як раскрываюцца яе паэтычныя здольнасці. Мяркую, што такія якасці, як творчасць, мужнасць, смеласць і г. д., прапарцыянальна падзелены сярод людзей. І прачынаюцца ў чалавеку нечакана. Але ў вершах Лэйлы Аліевай усе найлепшыя чалавечыя якасці можна адначасова. Яе творы літаральна набрыняялыя дабрынёй, пяшчотай, каханнем. Любоўю напісаныя радкі нясуць новую хвалю ідэй і новы дух у паэзію сучаснага Азербайджана.

У нашай краіне заўжды былі моцныя паэтэсы. Да прыкладу, з мінулага стагоддзя можна прыгадаць Хуршыдбану Натаван, Мехсэці Гянджаві ды інш. Дык вось Лэйла ханум Аліева — яскравая прадаўжальніца гэтага слаўнага шэрагу. Яна вылучаецца ўласным непаўторным стылем. У яе вершах няма штучнасці, песімізму, кожны радок дорыць надзею, саграе закаханыя сэрцы. У яе паэзіі адчуваецца



жывы подых Марыны Цвятаевай. Веліч паэтэсы, адметнасць — менавіта ў тым, што чытач яе твораў знаходзіць душэўную падтрымку, веру і надзею.

У літаратуры Азербайджана рамантызм іграў значную ролю ажно да пачатку XX стагоддзя. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на яго месца прыйшоў рэалізм. Як літаратуразнаўца з сям'і паэта магу з упэўненасцю сцвярджаць, што вершы Лэйлы Аліевай прынеслі ў нашу літаратуру новую плынь, новае светаадчуванне. У часы сацрэалізму нельга было выходзіць за пэўныя межы. Сённяшнім вершам Лэйлы Аліевай абмежаванні не вядомы — яны нясуць глыбінныя пачуцці ўсім аматарам прыгожага пісьменства. А цяпер дзякуючы цудоўным перакладам Таццяны Сівец, да слова, ганаровага члена Саюза пісьменнікаў Азербайджана, асалоду ад іх можа атрымаць і беларускі чытач. Дарэчы, гэта якраз той выпадак, калі я не згодны з вядомым выказваннем Барыса Пастарнака: «Пераклады — як жанчыны. Калі яны верныя, то непрыгожыя, а калі прыгожыя, то няверныя». Таленавітая беларуская паэтэса адчула глыбіню і пачуццёвасць вершаў сваёй азербайджанскай калегі і здолела перастварыць іх на сваёй роднай мове так, каб захаваць пяшчотную мелодыю радка і пры гэтым зрабіць яе беларускай, нібыта яна заўжды гучала на гэтай зямлі, зямлі Багдановіча і Купалы. Магчыма, прычына ў блізкасці светапогляду гэтых дзвюх творчых асоб: равесніцы, яны нарадзіліся ў час вялікіх перамен, выхоўваліся на высокіх каштоўнасцях сваіх народаў, бачылі, як іх краіны праходзілі няпросты шлях да суверэнітэту. Таленавітыя пісьменніцы, яны тонка адчуваюць боль і радасць свайго народа і шукаюць адзіных сапраўдных лекаў ад страшных хвароб нашага часу — у Паэзіі:

*Дайце мне лекі ад фальшу з трыбунаў.*
*Дайце мне лекі ад нораваў буйных.*
*Дайце мне лекі ад позіркаў зімных,*
*Дайце хутчэй ад расстання*
*з Радзімай.*

*Дайце вы лекі мне без шкадавання,*
*Дайце мне лекі, каб разам трывалі!*
*Дайце мне лекі, існуюць яны —*
*Добрыя словы, шчаслівыя сны!*

**Ісфандзіяр Бахціяр аглы ВАГАБЗАДЭ,**
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, доктар філалагічных навук, прафесар, член Саюза пісьменнікаў Азербайджана і Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Прага жыцця

«Як толькі крамяны маладзічок дагледзеў апошні сон, соладка пазяхнуў, пацягнуўся — у празрыстым блакіце маладога неба ўзнік сілуэт крумкача. Ён павольна апісваў круг у адным канцы вёскі, чапляў нябачную пятлю ў другім. Дык хіба гэта дзіва? У любым селішчы малая авіяцыя шчыруе зранку да цямна…»

Так пачынаецца казка Алены Стэльмах «Дуб і крумкач». Кніга пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Толькі прыйшла, прыляцела з друкарні. І, канечне ж, усё ў яе наперадзе. Чытач яшчэ вырашыць, наколькі твор яму даспадобы. Будуць розныя водгукі, розны характар прачытання і ўсведамлення. Так, усё наперадзе… Тым больш, што, нягледзячы на частыя выступленні ў друку, літаратурна-мастацкіх выданнях, удзел у розных калектыўных зборніках, «Дуб і крумкач» — першая арыгінальная кніга Алены Стэльмах.

А што ж сёння?.. Пра што хацелася б пагаварыць зараз, пасля першага прачытання? Казка з простым сюжэтам, з фабулай, якая падаецца не дужа складанай, зразумелай ці не з першых старонак. Два галоўныя персанажы ў творы — Дуб і Крумкач. Дрэва і птушка. Вячысты дуб-вяшчун, які шмат чаго бачыў за жыццё. Многія выпрабаванні вытрымаў. І — крумкач, «ваяўнічы крумкач». Гэта да яго звяртаецца дуб, каб збіць пыху ў агрэсіўнай, маласімпатычнай птушкі: «Ты, вяршыцель, ганебную набыў вядомасць. Дрэнная пра цябе ідзе пагалоска, — цяпер ужо не змоўчаў дуб. — Кожны з нас сваю дарогу ведае, і не з тваёй бруднай дзюбай маю сцяжыну пераходзіць…»

Ды не чуе крумкач праўду дуба-вешчуна. Не можа пагадзіцца з ім у ацэнках.

Народная мудрасць сама за сябе гаворыць у казцы Алены Стэльмах. У расповедзе, які грунтуецца і пабудаваны на традыцыях, перакананнях беларусаў, жыхароў, насельнікаў менавіта Белай Русі. Менталітэт, душа беларуская народа — вось галоўны стрыжань, на які нанізваецца фабула. У простай кампазіцыі, кампазіцыі сустрэчы і размовы дрэва і птушкі, прыцягальная драматургія.

«Быдляцкае тваё жыццё, — і лістом не ўздрыгануў мудры волат. — Як ты тут ні дзяры горла, а і медзяка з майго ўбранства не варты. Хіба не агорkla такое быццё самому?». Дуб-вяшчун — сімвал прыстойнасці, маральны аўтарытэт у свеце прыроды, духоўны арыенцір.

Казка падштурхоўвае да шматлікіх развагі. Найперш — пра культуру зносін, культуру стаўлення адзін да аднаго. З казачнага свету ліюцца вострыя праменьчыкі, якія прымушаюць думаць пра праўду, праўдзівае слова. Дуб-вяшчун, прамалінейна ацэньваючы паводзіны, жыццёвыя арыенціры гругана-крумкача, якраз гаворыць праўду… І для мастацтва гэта найважнейшы рухавік твора. Успамінаю Веніяміна Каверына: «…воля, энергія і патрабавальнасць да сябе не могуць перайсці на больш высокую ступень развіцця, калі яны не заснаваны на маральнай свядомасці, гэта значыць на праўдзе, законнасці і сумленні». І вось яшчэ з «урокаў Каверына»: «Сутыкаючыся з беззаконнем, знявагай, трусасцю, разлічанай ліслівасцю, кар'ерызмам, падманам даверу, культура выпрабоўвае балючы ўдар, а збор гэтых udараў вядзе да дэфармацыі маральнасці, для аднаўлення якой спатрэбяцца гады. Самы балючы ўдар — між іншым, удар, які распадаецца на мноства маленькіх, часам амаль незаўважных удараў, — здзяйсняе магутная ўладарка — «багіня хлусня». Культура адносін як адна з праяў духоўнага жыцця не можа існаваць і развівацца ў атмасферы Хлусні…»




«Дуб і крумкач» — хутчэй казка для дарослых. Хаця — і для чытання дарослымі дзецям. Алена Стэльмах здолела сказаць многае. І не пачуць гэтага нельга.

Кніжным ілюстратарам казкі выступіў вядомы беларускі кніжны графік Уладзімір Лукашык. Кожная яго работа прыцягвае ўвагу, сведчыць пра высокі ўзровень творчага мыслення, здольнасць знайсці роўную тэксту танальнасць. Беларуская выцінанка стала для У. Лукашыка рухавіком, галоўным сродкам мастацкіх рашэнняў графіка. Часам складваецца ўражанне, што выцінанку «ад Лукашыка» можна «прачытваць» асобна ад тэксту казкі. Тым самым кнігу «Дуб і крумкач» можна смела ставіць побач з выданнямі пра творчасць майстроў народнага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

«Але навошта я табе ўсё гэта кажу? Што табе мая мазольная праўда? Ты ж толькі сваёю трызніш…

Дуб, захоплены ўспамінамі, летуценна ўздрыгануў. Толькі цяпер прыкмеціў: крумкача на суку не было.

Назаўтра ўся вёска ўсхвалявана гаманіла пра тое, што ноччу на полі, дзе пасвіліся ў загарадзі бычкі, ваўкі зарэзалі трох жывёлін. Бачылі, крумкач там мільгануў…»

Так заканчваецца казка «Дуб і крумкач». Будзем спадзявацца, што следам за ёю ў Алены Стэльмах з'явяцца новыя творы, заснаваныя на мастацкім пранікненні ў свята беларускага фальклору, беларускіх легенд і паданняў, а значыць, у саму душу беларускага народа.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

Андрэй КОЗЕЛ



## Вяртанне салдата

*Я ехаў доўга з цяжкім сэрцам,*
*Сяк-так мінаючы дамы.*
*А звонкі гук, што моцна льецца,*
*Тады здаваўся мне нямым.*

*Я ведаў тое, што не трэба,*
*Пабачыў праўду, што не дасць*
*Астатнім дням праліцца срэбрам.*
*Ў вачах лунае прывід-жарсць.*

*Ды вабяць і палі, і вёскі,*
*І пахі леташняй раллі.*
*Але ўвушшу — рачулкі плёскат:*
*Тады з атрадам мы плылі.*

*Вось у кішэні фотаздымкі —*
*Нямыя сведкі тых часоў,*
*Дзе ўсе жывыя і ў абдымках,*
*Калі яшчэ не льецца кроў.*

*Я буду помніць генералаў,*
*Чысцюткі штаб іх, інтэр'ер*
*І як салдатам неставала*
*Лістоў, якія нёс «кур'ер».*

*Мне сніцца будуць верталёты,*
*Сябры, акопы, гразь — наноў…*
*І вочы тых забітых злёту*
*Хлапцоў, што верылі ў любоў.*

*Успомню я: разгойдваў вецце*
*Атакі гул, што не міне, —*
*Я памятаю ўсё на свеце!*
*А ці ўзгадае хто мяне?..*

***

*Ты не пытай мяне ніколі,*
*Дзе шлях мой і куды іду.*
*Знайшоў сабе сцяжыну ў полі,*
*Адно па ёй цяпер брыду.*

*Ці гэта шлях той запаветны?*
*Ніхто не дасць такі адказ:*
*Наш свет занадта пракаветны,*
*Каб нам даваць на роздум час.*
*Дык не спяшайся апярэдзіць*
*(Калі і лішняга сказаў),*
*Ў душу залезці, развярэдзіць:*
*Я сам яшчэ там не бываў.*

## Бывае

*Бывае, хочацца разбіцца,*
*Як кропля мора аб скалу.*
*І я хацеў бы нарадзіцца*
*Тым, кім ніколі не змагу.*

*Бывае, хочацца напіцца,*
*Каб больш нічый не бачыць твар.*
*Яшчэ мне хочацца маліцца,*
*Каб сцішыўся ў душы пажар.*

*Бывае, хочацца, каб сніцца*
*Мог мне штоноч адзіны брат.*
*Бывае, хочацца пазбыцца*
*Найгоршых дзён, надзейных крат.*

*Бывае, хочацца даўмецца,*
*Што ж у жыцці не так, не ў лад —*
*А сябар слухае, смяецца:*
*Магчыма, гэтаму ён рад.*

## Каменяломня

*Часта так у нас бывае:*
*малюеш, чэрціш схемы, планы,*
*а жыццё ідзе, сплывае,*
*ірдзеюць тлустай кропкай зманы.*

*Дакапацца хочаш нетраў,*
*гады жыцця — каменяломня.*
*Цьмяна помніш, што ты ведаў,*
*не надта ведаеш, што помніў.*



Фота Кастуся Дробава.

Дзмітрый ПЯТРОВІЧ



***

*Жыццё выцякае па кроплі*
*Са змучанай грэшнай душы,*
*Нібыта у мяккіх пантофлях*
*Час крочыць… Ды хочацца жыць —*

*Нязгодаю з гэтым сусветам.*
*Ён часам варожы, чужы.*
*Пакутуе сэрца паэта,*
*Якому так хочацца жыць!*

*Сумленнем сваім наталіцца*
*І свет гэты ім наталіць,*
*Нібыта святою жывіцай*
*З глыбінь нашай роднай зямлі,*

*Адчуць знойку подых сумнення,*
*Бо цяжкі шлях да перамог.*
*Паэт — гэта наша сумленне.*
*Вышэй можа быць толькі Бог…*

***

*Мой лёс — як акіян. Без берагоў.*
*Яны губляюцца ў тумане спадзяванняў.*
*Арыенцір — сумленне. І сцягоў*
*Няма ніякіх. Быццам пакаранне —*

*Штармы, завеі, здрады і… любоў —*
*Яна нярэдка, быццам ноч, сляпая…*
*Мой лёс — як акіян. Без берагоў.*
*Але калісьці дасягну я краю…*

***

*Застылы свет. Астылая гарбата.*
*І хмурыць бровы позняя зіма.*
*Яна ва ўсім, напэўна, вінавата.*
*У чым? Ты, мабыць, ведаеш сама.*

*Бягуць сцяжынкі — я ж адну шукаю,*
*Што да цябе калісьці прывядзе.*
*Заву цябе, каханая, гукаю…*
*Бягу па снезе. Трэба — й па вадзе*

*Я паплыву. Ці палячу над полем,*
*Нібы жаўрук, — каб разам быць з табой.*
*Я не цураюся наканаванай долі —*
*Нас павянчаў асенні лістабой…*

*Няхай мы п'ём астылую гарбату —*
*Каханне не астыне у душы…*
*Мы у адным з табою вінаваты —*
*Што пакахалі. І што трэба жыць…*

***

*Мандарынавы водар.*
*Адчуванне расстання*
*З тым, што грэла душу*
*цэлы год неспадзеў,*
*І чаканне любві,*
*як ад бед ратаванне,*
*Нібы ў сэрцы год гэты*
*ужо адбалеў.*

*Адбалела усё,*
*што натхняла*
*ў мінулым,*
*Ды бязлітасна памяць*
*зберажэ успаміны.*
*Новы год хай прыходзіць,*
*даверліва-юны —*
*А прад Богам душою*
*заўсёды мы вінны…*

***

*Мой новы дзень — нібыта першацвет,*
*Нібы радок, атулены надзеяй —*
*Зноў нарадзіцца, каб здзівіць сусвет*
*І закружыцца ў веснавой завеі.*

*Пялёсткі-мары будуць трапятаць*
*Пад сонцам ясным. Дол расчараванняў*
*Чакае іх. Нядоўга ім лунаць*
*У краі прывідным пад назваю «каханне».*

*З радкоў-надзей народзіцца санет,*
*Чыёсьці, можа, спраўдзіцца чаканне.*
*Мой новы дзень — нібыта першацвет*
*У краі, дзе няма ужо кахання…*

***

*На каханне не трэба пытацца дазволу —*
*Яно полымем яркім душу апячэ.*
*У пустыні не трэба маліцца Эолу —*
*Яго вецер паўсюль… Хай успыхне ярчэй*

*Гэта полымя жарсці, юрлівае мараў*
*Закаханых дваіх — двух анёлаў зямных —*
*І палаць будзе ў сэрцах нястомным*
*пажарам…*
*Хай напоўніць каханне іх кожны удых,*

*А Эолавы трубы агучаць пасланне*
*Усявышняга тым, хто любоўю жыве.*
*Хай напоўніць наш свет дабрынёю*
*каханне,*
*Васільковіца шчасце ў нябёс сіняве…*

Даната ВАРАБЕЙ



***

*Стракочуць конікі ў траве.*
*Спявае лета.*
*Зямля напоена дажджом,*
*Цяплом сагрэта.*
*Прыгожы вабіць далягляд,*
*Зіхацяць росы.*
*Блакітным полымем гараць*
*Льняныя косы.*
*Чырвоняць зваблівa бакі*
*Ў садах ранеты.*
*Цвітуць у полі васількі.*
*Гамоніць лета.*
*Азёры вабяць да сябе*
*Вадой празрыстай.*
*Крынічкі пояць нас з табой*
*Вадою чыстай.*
*У полі спее збажына —*
*Цудоўна гэта.*
*Багаты будзе ураджай.*
*Шчадрое лета.*
*Спяшаюць пчолкі адарыць*
*Мядовым Спасам.*
*А колькі зорачак гарыць*
*Вячэрнім часам!*
*У каляровы сарафан*
*Зямля адзета.*
*Не памыляецеся вы —*
*Спявае лета!*

***

*Я думала: ты далёкі.*
*Я думала: ты чужы.*
*Чаму ж тады так нялёгка*
*Нам несці свае крыжы?*

*Усе пад адным мы сонцам,*
*Ды кожнаму свой прамень.*
*І кружыцца не бясконца*
*Жыццёвая карусель.*

*Я думала: гэта наша*
*З табою будзе вясна.*
*А сталася ўсё іначай.*
*Чыя ж у гэтым віна?..*

*Забраў ты маю надзею,*
*Нібыта прываражыў.*
*І я ўжо сама не веру,*
*Што ты для мяне чужы.*

***

*Ізноў на маё чаканне,*
*Пакутнае да знямогі,*
*Адкажаш сваім маўчаннем.*
*Ці стрэнуцца нашы дарогі?*
*А можа, дарэмна гэта,*
*Што цешу сябе табою?*
*Вось скончыцца хутка лета.*
*А як пагадзіцца з сабою?*
*Удалеч плывуць аблокі*
*І мары мае за імі.*
*А ты ўсё такі ж далёкі…*
*Няўжо застанемся чужымі?*
*Няўжо не паслана лёсам*
*Ісці нам адной дарогай,*
*А голас кахання ўзнёслы*
*Заменіцца новай трывогай?..*

***

*Не пакідай мяне ніколі —*
*Ні ў светлы дзень, ні ў час такі,*
*Калі, пякучыя да болю,*
*Цякуць слязінкі са шчакі.*
*Не трэба болей мне нічога,*
*Каб толькі ведаць: Ты са мной.*
*Цяжкой была Твая дарога,*
*Не кожны крочыў за Табой.*
*Не ўсё і я раблю, як трэба.*
*Даруй, прабач, засцеражы.*
*І падкажы, о Божа, з неба,*
*Дай лекаў-зёлак для душы.*
*Не пакідай мяне ніколі —*
*Ні ў светлы дзень, ні ў час такі,*
*Калі, пякучыя да болю,*
*Цякуць слязінкі са шчакі.*



Міхась ПАЗНЯКОЎ

# Вяртанне

*Нявыдуманая гісторыя*

Валька правяла бабулю Параску толькі да веснічак, тая далей не дазволіла: дзьмуў халаднаваты вераснёўскі вецер, церусіў дождж.

— Вяртайся, унучачка, у хату і зашчапіся. Глядзі брацікa і сястрычку, я ўпраўлюся дома і прыду да вас начаваць, — сказала на развітанне бабуля.

— Не забудзь хлебца нам, — расплакалася малая.

— Прынясу, прынясу! І хлебца, і сальца… Дзед Кузьма хутка павінен вярнуцца з Быхава, нешта ж прынясе… Бульбачкі навару… Ідзі, мая сіраціначка, у хату…

Валька яшчэ пастаяла крыху, глядзела, як бабуля тэпае па гразкай вуліцы, выбіраючы лепшую дарогу. Затым, адчуўшы холад, ад якога не ратаваў татаў стары пінжак, малая пахлюпала басаног па лужынках на ганак. Выцерла брудныя ногі сухой анучай, намацала клямку, з цяжкасцю адчыніла дзверы і амаль ускокнула ў хату. Зняла вялікі мокры пінжак і зацягнула яго на печ, чарэнь якой прыемна дыхала цяплом. Меншыя, Петрык і Галька, яшчэ не спалі, але ляжалі на ложку каля печы, накрытыя коўдрай, мабыць, напалоханыя бабуляй Параскай, што іх ухопіць злы воўк, калі яны раптам надумаюцца выслізнуць на двор. Валька прылегла худымі плечукамі на цвёрдую, але яшчэ даволі цёплую чарэнь печы. З ложка пачуўся Петрыкаў плач:

— Хачу есці…

— І я хачу есці, — далучыла свой пісклявы, слабы і заплаканы галасок Галька.

— Перастаньце выць, — адазвалася Валька, — бабуля Параска пайшла вячэру гатаваць, паляжыце трошкі, пачакайце. Дзядуля скора вернецца з базару.

— Хачу на печ, тут холадна, — закапрызіў Петрык.

— І я хачу на печ, — заплакала мацней Галька.

— Добра. Падымайцеся да мяне, — пагадзілася Валька. — Падайце падушачкі і коўдру сюды. — Яна ўсцягнула на печ пададзеныя рэчы, расклала іх і дапамагла малым падняцца.

Дзеці ляжалі ўтрох і плакалі. Галька — моцна, з усхліпамі, Петрык — крыху цішэй, час ад часу пераходзячы на гучныя ўсхліпы, а Валька — амаль моўчкі. Але горкія, балючыя слёзы душылі яе, і яна ледзь стрымлівалася, каб не загаласіць. Ёй было ўсяго толькі восем гадкоў, калі моцна захварэла на тыф маці, якая праз некалькі месяцаў памерла. Петрыку хутка споўніцца шэсць, а Гальцы ўсяго толькі чатыры гады. Тата іх ваюе на фронце. Вось ужо трэці месяц яны жывуць з бабуляй. Але сягоння яна чамусьці прывяла іх раніцай у бацькоўскую хату, выпаліла ў печы перад гэтым. Відаць, таму, што пахварэлі цёткі Надзея, Маня і Зіна — дочкі бабы Параскі. І каб уберагчы ўнукаў, тая вырашыла адсяліцца з імі ў іхнюю пустую хату. Ды, напэўна, была і яшчэ нейкая, вельмі важкая прычына. Валька ўспомніла пісьмо ад таткі. Ён пісаў са шпіталя, куды трапіў пасля ранення. Яе не было ў хаце, калі бабуля ўголас чытала пісьмо, таму дакладна не ведае, што напісаў тата. А сама чытаць яшчэ не ўмее, школа даўно закрыта. Вайна… Ды бабуля з дзедам крыху павесялелі пасля татавага пісьма. «Не выключана, што дэмабілізуюць…» — паўтарала часта бабуля Параска словы з татавага пісьма. А што яны абазначаюць, Валька не ведае.

Трэба пацікавіцца ў бабулі, што гэта такое — «дэмабілізуюць»? Можа, дамоў прывязуць далечвацца? «А няхай бы! Я цалавала б, гладзіла татку, чай на зёлках яму гатавала б…» — разважала яна.

— Мне горача! — загаласіў раптам Петрык.

— І мне! — далучылася да яго Галька. — А дзе мамка? Мама! Ма-а-а-ма-а! — зацягнула яна, як гэта з ёю было вельмі часта, невыносна балючым плачам.

Валька не ведала, як суцешыць. Потым, успомніўшы, як гэта звычайна рабіла бабуля, заплакала сама, залямантавала, выціраючы слёзы:

— А сіраціначкі мае!.. А даражэнькія мае!.. А вашай мамачкі няма на белым свеце!.. А ваша мамачка на небе, на вас адтуль глядзіць і хоча, каб вы не плакалі, не галасілі… А то ж ёй балюча стане, і яна можа зваліцца, свае ручачкі-ножачкі паламаць!.. Ой, не плачце, мае вы родненькія!..

— Чула? Не плач, сціхні, — стаў супакойваць Гальку і Петрык.

Валька дапамагла малым злезці з печы, забрала падушачкі і коўдру, загадала брату і сястрычцы прылегчы на ложку, старанна накрыла іх.

— Цішэй! Паляжыце крыху, я вам казку раскажу пра залатую яблыньку. Яе мне наш татка расказваў.

— А дзе наш татка? — зноў расплакалася Галька. — Які ён?..

— Ён… Я і не помню, які ён, — прызналася Валька. — Але — дужы, добры…

— Не плач, — адазваўся Петрык. — Наш татка ваюе. Ён спачатку на адной вайне злых людаедаў прагнаў, потым на другой. А цяпер фашыстаў у Берлін яму трэба загнаць і там іх усіх у турму пасадзіць, каб яны не стралялі і не палілі нашу хату…

Валька адшукала ў шуфлядзе старую кніжку без вокладкі, якую ёй некалі чытаў тата. І, пазіраючы ў яе, пачала расказваць дзівосную гісторыю пра залатую яблыньку. Нават не заўважыла, як малыя заснулі… Адклала кніжку ўбок, нацягнула коўдру. Але сама заснуць так і не змагла.

Раптам хтосьці пагрукаў у дзверы, на ганку пачуліся чыесьці цяжкія крокі.

«Хто гэта? — спалохалася дзяўчынка. — Бабуля Параска так не грукае і голас падае».

— Адчыніце! Я — свой! — пачуўся незнаёмы мужчынскі голас.

У Валькі моцна забілася сэрца, перасмяглі вусны. Яна затаіла дыханне…

— Адчыніце, дзеткі! — зноў данёсся патрабавальны, але добры голас. І Вальцы падалося, што яна некалі чула ўжо яго. Нешта ў ім было знаёмае, магічна-прыцягальнае.

Неяк няўцямна яна пасунулася да дзвярэй і адчыніла. Праз парог пераступіў высокі, стройны і прыгожы вайсковец. Быў ён у доўгім шынялі, высокіх ботах. За плячыма вісеў вялікі рэчыўны мяшок, а на галаве — сапраўдная пілотка з вялікай чырвонай зоркай.

Магутная, цёплая, прыемная хваля, здавалася, поўнасцю ахінула, запоўніла разгублена-шчаслівую Вальку.

— Дзядзечка, а хто ты? — слабым, непаслухмяным голасам запыталася яна, пазіраючы на таго здзіўленымі вачыма ў прадчуванні сапраўднага цуду. А з ложка на дзівоснага незнаёмца ўтаропіліся яшчэ дзве пары неверагодна ўражаных вачанят.

Салдат быццам знерухомеў і страціў мову. Ён стаяў пасярод хаты і моўчкі плакаў. З вачэй каціліся, ліліся па нябрытых шчоках буйныя слёзы. Рукі салдата, працягнутыя наперад, застылі без руху. Яго вусны дрыжэлі, і ён нічога не мог вымавіць. Нарэшце ціха, а Вальцы падалося, што гучна, прамовіў:

— Дзеткі, я ваш тата…

Валька кінулася да салдата, адчуваючы ў ім самага дарагога, доўгачаканага чалавека.

— Татачка! — выгукнула яна ўпершыню ў сваім жыцці так невымоўна хвалюючa гэта роднае слова і моцна абшчаперыла ногі неспадзяванага, але самага жаданага госця сваімі худымі ручкамі.

А з ложка ўжо ляцелі да іх Петрык і Галька. Тата абняў іх траіх разам і доўга цалаваў, абліваючы слязьмі.

— Дзетачкі мае, — шаптаў ён, — не плачце. Мяне назаўсёды адпусцілі да вас.

Ён зняў рэчыўны мяшок і пачаў даставаць з яго хлеб, кансервы, драбковы цукар і яшчэ нешта загорнутае ў паперу.

— Ты прагнаў фашыстаў у Берлін? — горда спытаў Петрык.

— А ты раскажаш нам казку пра залатую яблыньку? — уздыхнула Галька, не зводзячы вачэй з таты.

— Прагнаў, сынок!.. Раскажу, дачушка, — усміхаўся праз слёзы шчаслівы бацька.

— А назаўсёды прагнаў? — не адставаў Петрык.

— Назаўсёды, сынок! Назаўсёды, мае дзетачкі…

З вуліцы даляцеў голас бабулі Параскі, якая спяшалася ў хату, каб абняць сына.

# Апошняя надзея

*Апавяданне-быль*

**Кожны год аддаляе нас ад падзей Вялікай Айчыннай вайны. Амаль у кожнай сям'і ёсць гісторыя, звязаная з гэтай тэмай. Ёсць яна і ў мяне. Памяць чалавечая не вечная, і таму з цягам часу ўсё, што адбывалася ў ваенныя гады, стала амаль што легендай. Нядаўна дзякуючы інтэрнэту я на свае вочы пабачыла алічбаваныя дакументы з фонду Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі, якія маюць непасрэднае дачыненне да лёсу блізкіх мне людзей. Гэтыя чатыры архіўныя старонкі нібы перавярнулі маю душу, і я ўзгадала аповеды бабулі, якія чула ў дзяцінстве і якія ўжо сталі забывацца. Раз за разам, калі вяртаюся да гэтых дакументаў, усплываюць вобразы тых людзей, што стаяць за сухімі афіцыйнымі радкамі.**

**Аўтар**

Рэгіна БАГАМОЛАВА



Маці прачнулася на досвітку. Доўга ляжала, заплюшчыўшы вочы. Побач нехта заварушыўся, застагнаў і прыціх. Ведама ж, у бальніцы не дома. Ёй і самой апошнім часам было кепска. Хворыя лёгкія ўсё часцей прымушалі звяртацца па дапамогу да дактароў, не давалі дыхаць вольна. Але нават цяжкая хвароба не самае страшнае ў яе жыцці. Учарашняя сустрэча нібыта надламіла. Больш за дзесяць год прайшло, як скончылася вайна. Атрымала ў свой час даведку, што яе сын, Васіль, прапаў без вестак. На што спадзявацца? У галаву лезлі розныя думкі. Успомнілася, як праводзіла ў красавіку 41-га дваццаціаднагадовага Васілька ў Чырвоную Армію. «Мама, ну што ты плачаш? Адслужу і вярнуся. Пісаць буду», — казаў сын на развітанне. І праўда, амаль кожны тыдзень атрымлівала лісты. Трапіў служыць на Украіну, у Чарнігаў. Але мацярынскае сэрца не падманеш, увесь час жыла трывога…

Пачалася вайна — і ніводнага ліста. Вясной 42-га пачула, што з палону ў суседнюю вёску вярнуўся Антось Макарэвіч, які прызываўся разам з Васілём. Пайшла да яго, распытвала... Адчувала, аднак, што Антось нібыта штосьці ўтойвае, недагаворвае. Пасля вайны яна не раз хадзіла ў ваенкамат, прасіла дапамогі ў пошуку сына. І нічога. «Прапаў без вестак», — атрымлівала адказ. Але ўпарта на нешта спадзявалася.

Штодзённыя клопаты і праца адцягвалі ўвагу ад сумных думак. Але кожны вечар яна зноў і зноў звярталася да сына, гаварыла, нібы раілася з ім. Распавядала пра старэйшых сясцёр, якім так цяжка і так патрэбна зараз дапамога. Абедзве засталіся без мужоў, а дзеці яшчэ малыя.

Яна і сама доўга была ўдавой з дзвюма дачушкамі на руках, пакуль не выйшла за Сцяпана. Негаваркі і спакойны, ён адважыўся прызнацца, што ўвесь час кахаў толькі яе. І яны пажаніліся ды жылі ў згодзе. А пасля нарадзіўся Васілька. Як жа яна радавалася сыночку! А хлопчык і сапраўды быў такі слаўны, некапрызлівы, толькі ўважліва глядзеў вакол блакітнымі разумнымі вачыма, нібыта і не немаўлятка...

Васільку не было і пяці, калі памёр Сцяпан. І хлопчык стаў для маці першым памочнікам. Высокі і моцны, Васіль у восем гадкоў ужо спрабаваў касіць. А як крыху падрос, то стаў сапраўдным гаспадаром. Маці не магла нарадавацца на сына. Усе суседкі зайздросцілі… І як добра было ім удваіх з сыночкам! Жаніцца Васіль не спяшаўся — трэба ж у войску адслужыць. Вось пайшоў у Чырвоную Армію. А пасля — вайна. На ўсе запыты — адзін адказ: «Прапаў без вестак»…

І вось учора ў бальніцу нечакана прыйшоў Антось. Выгляд не вельмі добры. Франтавое раненне. Аповед Антона быў быццам споведдзю. Павінавацціўшыся, прызнаўся, што загінуў Васіль дзявятага ліпеня сорак першага на ўзбярэжжы Дняпра пад Быхавам. Немцы прарвалі абарону, і многа палегла там нашых салдацікаў. У тым жа баі атрымаў раненне і кантузію Антось. Параненага, узялі яго ў палон немцы. Спачатку трапіў у шпіталь у Бабруйску, затым апынуўся ў лагеры ў польскім прыкарпацкім горадзе Яраславе, што на мяжы з Украінай. Чаму не захацеў расказаць пра ўсё раней? Ды баяўся, гнаў прэч цяжкія ўспаміны. Мог жа апынуцца ў сталінскім лагеры за тое, што трапіў у палон. Не раз выклікалі і дапытвалі яго наконт таго, як удалося ўцячы ад немцаў. Але пабачылі, што ён просты сялянскі хлопец, які страціў здароўе пасля ранення і палону, і адчапіліся. І ўсе гады Антось пражыў, калоцячыся ад страху. А раптам прыйдуць ды арыштуюць? І вось цяпер, праз адзінаццаць год пасля заканчэння вайны, пасля смерці Сталіна, ён нарэшце адважыўся расказаць усю горкую праўду. Паабяцаў схадзіць у ваенкамат і засведчыць гібель Васіля…

Так усё і здарылася. Праз нейкі час пасля прызнання Антона Макарэвіча маці атрымала афіцыйнае пацвярджэнне гібелі сына. Ёй была прызначана пенсія як члену сям'і загінуўшага. Толькі траціць гэтыя грошы яна сабе забараніла, не магла нават пра тое і думаць, хоць жылося вельмі цяжка. А пенсію тую яна атрымлівала менш чым год. Доўга хварэла. Пайшла з жыцця: сэрца не вытрымала. А тыя пенсійныя грошы, завязаныя ў насоўку і схаваныя за бажніцай, побач з асвечанай вярбой і грамнічнымі свечкамі, знайшлі дочкі. На іх і пахавалі маці.

Антось Макарэвіч таксама меў нядоўгі век: памёр, не дажыўшы нават да сарака.

...Я ўглядалася ў старыя выцвілыя архіўныя старонкі, надрукаваныя на няспраўнай машынцы, у якой западала літара «а». Антон Макарэвіч падрабязна тлумачыў у пратаколе, як быў прызваны разам з Васілём у армію, пра зборы ў Чарнігаве, пра пачатак вайны і пра ўсё, што адбылося 9 ліпеня 41-га пад Быхавам. Дзе пахаваны Васіль, ён не ведаў. У канцы дакумента стаялі подпісы: шырокі і размашысты ваенкама і нервовы, няроўны Антона Макарэвіча…

Трымаючы ў руках копіі гэтых архіўных дакументаў, я заўсёды бачу перад сабою аблічча маці — маёй прабабулі, такое ж невыразнае, як і на адзіным маленечкім фотаздымку, што захаваўся проста цудам. Усе астатнія згарэлі ў хаце, якую спалілі немцы пры адступленні. Прабабуля пайшла ў лепшы свет у шэсцьдзясят два гады. Яна не здолела перажыць страту любімага сына. Я нарадзілася праз тры гады пасля яе смерці.

# Генерал-дэсантнік з роду Казанкіных,

## які мог тройчы атрымаць «Залатую Зорку» Героя

**Беларускі пісьменнік Анатоль Васільевіч Сцяцкевіч-Чабаганаў даўно займаецца даследаваннем радаводаў, выдаў на гэтую тэму некалькі кніг. Асобы, якія трапляюць у поле зроку літаратара і гісторыка, пакінулі адметны след у гісторыі нашай Айчыны.**

Родны дзядзька майго бацькі Васіля Аляксандравіча Чабаганава быў славутым дэсантнікам і вядомым ваенным начальнікам. Яму прысвечаны экспазіцыі ў музеях Разані, Крычава, шэраг кніг і кінафільмаў. Імем Аляксандра Казанкіна названая вуліца ў Буінску, які раней адносіўся да Сімбірскай губерні, цяпер — Рэспубліка Татарстан. Дарэчы, прадстаўнікі роду Казанкіных са старажытных часоў жылі ў гэтым горадзе, заснаваным Кацярынай ІІ. У дакументах архіва Буінскай гарадской Думы за 1837 год знайшліся звесткі, што прадзед генерала Емяльян Казанкін быў у спісах 45 мяшчан, якія мелі права выбіраць і быць выбранымі на грамадзянскія пасады.

У 1900 г. у сям'і Казанкіных нарадзіўся сын Аляксандр. Вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе. Бацьку страціў рана, у 13 гадоў, і таму прыйшлося самому зарабляць на хлеб. Разам з Аляксандрам Мітрафанавічам Чабаганавым, мужам старэйшай сястры Еўдакіі Фёдараўны, працаваў краўцом. Калі пачалася рэвалюцыя, якая потым перарасла ў грамадзянскую вайну, ён, як і многія іншыя, быў уцягнуты ў братазабойчы вір. 25 студзеня 1919 г. арыштаваны Буінскай Надзвычайнай Камісіяй як былы белагвардзеец, аднак за недастатковасцю доказаў абвінавачванні знялі.

Летам 1919 г. Аляксандр Казанкін быў прызваны ў рабоча-сялянскую Чырвоную Армію. У складзе Туркестанскіх стралковых палкоў ваяваў з басмачамі ва Усходняй Бухары. Дэмабілізаваўшыся, стаў працаваць у Буінскам райвыканкаме. Але, адчуўшы сваё прызванне, былы чырвонаармеец паступіў на пяхотныя курсы ў Ленінград. Праз некаторы час, у 1931 годзе, як здольны афіцэр быў накіраваны на вучобу ў Акадэмію імя Фрунзэ. Казанкіну давялося служыць у многіх кутках краіны: ад Далёкага Усходу да Беларусі.

У 1936 г. з сяла Бараўское, што пад Смаленскам, пачынаецца паветрана-дэсантная эпапея Казанкіна. Затым былі Мазыр, Пухавічы. Усяго за пяць гадоў Казанкін прайшоў шлях ад капітана да палкоўніка, начальніка штаба корпуса. Акрамя таго, стаў майстрам спорту, за плячыма якога было больш за 200 скачкоў з парашутам.

...Вучэнні ішлі па напружаным графіку. Таму што ўжо палала Другая сусветная вайна, і нямецка-фашысцкія войскі, захапіўшы амаль усю Еўропу, сканцэнтраваліся каля мяжы Савецкага Саюза. У адпаведнасці з загадам Наркама абароны, вясной 1941-га ў Заходняй Асобай ваеннай акрузе ў тэрміновым парадку разгортваліся паветрана-дэсантныя карпусы. У Мар'інай Горцы, на базе 214-й паветрана-дэсантнай брыгады, камандзірам якой быў Аляксандр Казанкін, фарміруецца 4-й паветрана-дэсантны корпус у складзе брыгад, спецыяльных частак і падраздзяленняў.

На чыгуначную станцыю Пухавічы, што ў кіламетры ад ваеннага гарадка, адзін за адным прыбывалі эшалоны. Камандзірам 4-га паветрана-дэсантнага корпуса быў прызначаны генерал-маёр Аляксей Сямёнавіч Жадаў, але да пачатку вайны прыняць камандаванне не паспеў.

22 чэрвеня 1941 года, у 4.30 раніцы, у казармах корпуса дзяжурныя пракрычалі:

— Пад'ём! Баявая трывога!

А ў гэты час у памяшканні штаба сабраліся амаль усе камандзіры і палітработнікі.

— Сядайце! — загадаў Казанкін, а сам працягваў стаяць. Яго твар не выказваў і ценю трывогі. — Корпусу аб'яўлена баявая трывога ў сувязі з пачаткам ваенных дзеянняў. Гэта вайна з усімі наступствамі. Загадваю: прывесці падраздзяленні і часткі ў стан баявой гатоўнасці. Пакінуць неадкладна ваенны гарадок і заняць раён стрэльбішча...

Аляксандр Фёдаравіч мужна сустрэў вестку пра пачатак вайны. І з першай хвіліны рабіў усё, каб прывесці корпус у баявую гатоўнасць, што адыграла пасля вырашальную ролю ў адбіцці нападаў ворага. Паклапаціўся ён і пра сем'і ваеннаслужачых, якія ўсе былі адпраўлены ў савецкі тыл. У сваёй аўтабіяграфіі Аляксандр Казанкін апісаў гэты перыяд сцісла: «Атрымаў загад з баямі адыходзіць на раку Бярэзіну, каб захапіць там пераправы ў раёне мястэчка Свіслач і арганізаваць абарону. Але пераправы былі занятыя танкавымі часткамі групы Гудэрыяна, і корпус з цяжкімі баямі, маючы толькі 45 мм гарматы, заняў гэтыя пераправы і перайшоў да іх абароны, забяспечваючы адыход нашых армій».

Задача была нялёгкая. Пазней генерал арміі А. Жадаў у сваіх успамінах напіша: «Праціўнік наступаў сваімі танкавымі часткамі, яго авіяцыя бесперапынна бамбіла нашы войскі. У вельмі складаных умовах Аляксандр Фёдаравіч праявіў выключную мужнасць і ваеннае майстэрства, часта выязджаў на месцы баёў, арганізоўваў сістэму агню і вучыў, як трэба змагацца і біць немцаў.

На працягу трох сутак нашы часткі адбівалі вельмі жорсткія атакі, палілі нямецкія танкі, захапілі ў палон нямецкіх танкістаў і толькі з-за агульнага неспрыяльнага становішча вымушаны былі адступіць».

Але адступаў корпус, ужываючы рухомую абарону, часта контратакуючы ворага, дзейнічаў з адкрытых флангаў і вёў зацяжныя баі. Так было на рацэ Друць, так было і на рацэ Сож пад Крычавам, дзе дэсантнікі ўжо наступалі, а не адыходзілі. І затым 25 сутак утрымлівалі горад, што ў пачатку вайны было вельмі важна. Нават адзін дзень затрымкі нямецкіх войскаў лічыўся подзвігам. Невыпадкова ў Крычаве ёсць экспазіцыя ў музеі, прысвечаная мужнасці Аляксандра Фёдаравіча і яго байцоў.

Распавядае пра гэту бітву і нямецкі генерал Гудэрыян у сваёй кнізе «Успаміны салдата». Але, узгадваючы пра «крычаўскі выступ», які не даваў яму магчымасці «наступаць на Маскву і ў іншым кірунку», сцвярджае, што перашкодзілі яму 20 новых дывізій маршала Цімашэнкі. Вядома, гітлераўскі генерал не захацеў прызнаць сваю паразу. Не было тых дывізій, а былі дэсантнікі ў колькасці за 1200 чалавек, якія прайшлі ноччу двухкіламетровы роўны луг, фарсіравалі Сож, пераадолелі высокі заходні бераг і нечаканым штурмам адабралі ў ворага Крычаў. За баі пад Крычавам 9 жніўня 1941 года ён атрымаў ордэн Чырвонага Сцяга. Прадстаўленне да ўзнагароды падпісалі Галоўнакамандуючы Заходнім напрамкам маршал Цімашэнка і член Ваеннага Савета Булганін.

Самай складанай, але яркай, незабыўнай і гістарычна значнай стала для Аляксандра Казанкіна адна з найбуйнейшых дэсантных аперацый Другой сусветнай вайны — Вяземская. Беспрэцэдэнтная па задуме, размаху і рызыцы. Удзельнічалі ў аперацыі дзесяць тысяч «паветраных байцоў». Дырэктывай Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага ад 7 студзеня 1942 г. войскам заходняга напрамку былі вызначаны задачы на акружэнне і разгром нямецкіх армій групы «Цэнтр». І важная роля тут адводзілася дэсанту, закінутаму ў тыл ворага: ён павінен быў адцягнуць значныя сілы, актывізаваць партызанскі рух, падтрымаць жыхароў акупаваных тэрыторый.

Кіраўніцтва Генштаба разлічвала, што баявыя дзеянні ў тыле ворага працягнуцца не больш за трое сутак. Але яны расцягнуліся на доўгія пяць месяцаў. Самалёт, на якім вылецела да месца дэсантавання камандаванне корпуса, быў падбіты нямецкімі знішчальнікамі. Камандзір корпуса генерал Левашоў загінуў у самалёце, і камандаванне, як і ў першыя дні вайны, зноў прыняў на сябе Аляксандр Казанкін.

Жорсткія баі, за якімі пільна сачыла ўся краіна, вяліся дэсантнікамі не толькі на вяземскай, але і на смаленскай зямлі. Корпус кантраляваў значную тэрыторыю. У тыле ворага былі створаны некалькі партызанскіх атрадаў. Аб гэтай выбітнай аперацыі паведамлялася па радыё, практычна ва ўсіх газетах. І амаль у кожным артыкуле былі радкі і пра камандзіра «белых анёлаў», які любіў паўтараць:

— Мы прыляцелі з неба, каб акружыць і біць немцаў.

Газеты першымі паведамілі і пра радыёграму камандуючага войскамі Заходняга фронту генерала арміі Жукава Аляксандру Казанкіну: «Сёння апублікаваны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета, якім Вы ўзнагароджаны ордэнам "Чырвоны Сцяг". Горача віншуем Вас з высокай урадавай узнагародай і жадаем новых баявых поспехаў у гераічных справах дэсантнікаў».

Поспехі дэсантнікаў былі значнымі: яны знішчылі больш як 15 тысяч фашыстаў! І скавалі вялікія сілы праціўніка, у якога было захоплена шмат баявой тэхнікі і амуніцыі. Весці барацьбу ў тыле ворага было няпроста. Але, нягледзячы на дзённыя жорсткія атакі фашыстаў, самалёты і танкі, легендарны корпус генерала Казанкіна выйшаў з акружэння. У адным з апошніх баёў Аляксандр Фёдаравіч быў паранены асколкам ад ручной гранаты і быў накіраваны ў шпіталь.

Гаворачы пра Вяземскую аперацыю, нельга не ўспомніць аб унікальным дакуменце. Гэта ўзнагародны ліст на генерал-маёра Аляксандра Фёдаравіча Казанкіна, «які заўсёды быў наперадзе байцоў і камандзіраў, натхняў іх на подзвігі і праявіў асабістую адвагу і геройства» і такім чынам "годны прадстаўлення звання "Героя Савецкага Саюза"».

Падпісалі дакумент Камандуючы паветрана-дэсантнымі войскамі Чырвонай Арміі генерал-маёр Глазуноў



і член Ваеннага Савета Громаў у ліпені 1942 года. Але Казанкін гэтай узнагароды не атрымаў...

Зорку Героя заслужыў генерал-лейтэнант гвардыі Казанкін, і ў пераможным 1945-м. Але ўжо не за Вяземскую аперацыю, а за Берлінскую. Гвардзейцы Казанкіна першымі ўварваліся ў сталіцу фашысцкай Германіі. Дакумент на прысваенне звання Героя Савецкага Саюза падпісалі камандуючы 3-й ударнай арміі, якая штурмавала Берлін, генерал-палкоўнік Кузняцоў і член Ваеннага Савета генерал-маёр Літвінаў.

За некалькі дзён да Перамогі, 27 красавіка 1945 г., у баях на вуліцах Берліна генерал-лейтэнант Казанкін быў цяжка паранены. Яго самалётам адправілі ў шпіталь у Маскву. А на наступны дзень, 28-га, было падпісана прадстаўленне на званне Героя. Але высокая ўзнагарода зноў (у другі раз!) абышла Аляксандра Казанкіна. Чаму ж?

Дачка генерала Галіна распавяла цікавую гісторыю, якая пасля вайны актыўна абмяркоўвалася ў генеральскіх колах. Падчас штурму Берліна гвардзейцы Казанкіна захапілі адну з рэзідэнцый Гітлера, дзе стаяла некалькі парадных аўтамабіляў «хорхаў». Аляксандр Фёдаравіч адразу далажыў пра гэта Жукаву. А той, будучы ў добрым настроі, сказаў, што адну з машын Казанкін можа ўзяць сабе. Аднак машыну, на якой ездзіў фюрэр, вельмі ўжо хацелася мець аднаму з высокіх штабных начальнікаў. І ў тэлефоннай размове ён выказаў пажаданне генерал-лейтэнанту Казанкіну, аднак той не пагадзіўся. І ўзнагародныя дакументы Аляксандра Фёдаравіча зноў ляглі пад сукно.

Але ў славутага дэсантніка цэлае сузор'е ўзнагарод. Сярод іх — два ордэны Леніна, шэсць ордэнаў Чырвонага Сцяга, вышэйшыя палкаводчыя ордэны Кутузава і Багдана Хмяльніцкага І ступені, ордэн Суворава ІІ ступені.

Пасля вайны Аляксандр Казанкін узначальваў 39-ы Гвардзейскі паветрана-дэсантны Венскі корпус, камандаваў паветрана-дэсантнымі войскамі Узброеных сіл СССР, быў галоўным інспектарам паветрана-дэсантных войскаў. Аднак шмат каму з тых, хто ўвесь час быў на передавой, лёс рыхтаваў кароткі век. 20 сакавіка 1955 г. Аляксандру Фёдаравічу стала дрэнна, яго павезлі ў шпіталь. Не стала Казанкіна на 55-м годзе жыцця. Пад скупымі радкамі некралога паставілі свае подпісы знакамітыя палкаводцы: Жукаў, Василеўскі, Конеў, Сакалоўскі, Кузняцоў, Баграмян, Маскаленка, Маргелаў і іншыя. Пахавалі галоўнага дэсантніка краіны на Навадзявочых могілках у Маскве.

*P. S. 1965 год. Краіна ўпершыню з вялікім размахам святкуе 20-ы юбілейны Дзень Перамогі. Зноў падрыхтаваны спісы герояў, якіх у свой час па розных прычынах абышлі высокія ўзнагароды. Было падрыхтавана і трэцяе па ліку прадстаўленне на званне Героя на генерала Аляксандра Фёдаравіча Казанкіна. Але яго ўжо 10 гадоў як не было ў жывых. І дакументы ў трэці раз ляглі пад сукно...*

**Анатоль СЦЯЦКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ,**
**член Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Ключ да сэрца «алмаза ведаў»

**За шклом у ліфце раскінуўся Мінск у аблоках. Усё вышэй, усё прыгажэй і ўсё больш трапятліва: што ж усярэдзіне алмаза?.. Думаеце, «Хутчэй, вышэй, мацней!» — дэвіз толькі алімпійцаў? А наведвальнікаў бібліятэкі? Асабліва калі ў ёй безліч лабірынтаў і хадоў, паверхаў і лесвіц. Як у непаўторным ромбакубаактаэдры новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, якому сёлета спаўняецца 10 гадоў. Адзначыць юбілей вырашылі незвычайна: разам з клубам экскурсаводаў Інстытута турызму БГУФК Нацыянальная бібліятэка Беларусі арганізавала квэст «Бібліядэсант», які сабраў самых цікаўных і актыўных, рашучых і спрытных. Восем каманд змагаліся за ўнікальны прыз — магчымасць трапіць у сэрца галоўнай кніжнай скарбніцы краіны.**

Квэст (англ. *quest* — «пошук, заданне») — гульня, дзе трэба выканаць заданні для дасягнення мэты. У складзе «Бібліядэсанту» — 40 удзельнікаў, па 5 у кожнай камандзе (заяўкі на ўдзел прымаліся па інтэрнэце). Схема гульні: 5 пунктаў (на 1-м, 2-м і 3-м паверхах) з заданнямі. Пытанні рыхтавалі супрацоўнікі бібліятэкі разам з валанцёрамі з універсітэта фізкультуры. Прыйсці ўсёй камандай у пункт да валанцёра (калі не ўсёй камандай — штраф 2—3 хвіліны), атрымаць тры заданні, выканаць, вярнуць, атрымаць ключ і ісці на наступны пункт па новыя заданні. У дапамогу — карты. Заданні — у розных месцах кніжніцы: музей кнігі, галерэі, аддзел рэдкай кнігі, зала перыядычных выданняў… У працэсе гульні трэба сабраць 5 ключоў. І — на 22 этаж для падвядзення вынікаў, дзе толькі імгненне аддзяляе ад таямніцы, хто пападзе ў сэрца «алмаза ведаў» і дзе яно знаходзіцца.

— Удзельнікі квэсту — з 16 гадоў, менавіта яны нашы патэнцыйныя чытачы, — адзначае начальнік аддзела культурна-відовішчнай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Наталля Башкірава. — Мэта — каб студэнты, моладзь даведаліся пра нашы магчымасці, пазнаёміліся з новымі заламі — рэдкай кнігі, міжбібліятэчнага абанемент… Дарэчы, Нацыянальная бібліятэка была адной з пляцовак ларп-фестывалю. Ларпы — ролевыя гульні. Спрабуем. Хочам прапанаваць нашу пляцоўку для будучага фестывалю.

— Летась мы праводзілі квэст для студэнтаў БГУФК, удзельнікаў клуба экскурсаводаў, каб яны маглі ў гульнёвай форме пазнаёміцца з нацыянальнай бібліятэкай, сарыентавацца, — распавядае аўтар, адзін з арганізатараў квэсту, старшы выкладчык кафедры сацыяльна-гуманітарных дысцыплін Інстытута турызму БГУФК Алена Худніцкая. — Сёлета, з нагоды юбілею, Нацыянальная бібліятэка прапанавала правесці штосьці падобнае. Такім чынам, квэст атрымаўся агульнымі намаганнямі. У планах — дапрацаваць і размясціць квэст на мабільнай платформе, каб можна было зайсці са смартфона і пагуляць у любы момант, калі працуе бібліятэка. Думаю, цягам лета гэта ажыццявім.

Квэст вельмі нагадваў марафон. Суддзя тут — час, валадарыць хуткасць. А яшчэ — эрудыцыя, знаходлівасць. «Як знайсці залу міжбібліятэчнага абанемента?» — «Не, спачатку ў музей кнігі!» — чуліся ўсхваляваныя воклічы. У музеі кнігі бязмежжа пытанняў: адкуль родам салавей, што на яблыку ў музеі, колькі гравюр у кнізе побач з ім? па матывах чых малюнкаў выкананы гравюры ў фларэнтыйскім выданні «Бажэственная камедыя» Дантэ Аліг'еры (1481 г.)? якія элементы афармлення характэрны для рукапісных славянскіх кніг? А ў кальцавым калідоры аднаго з паверхаў трэба было знайсці беларускую чарапаху і вызначыць, як называецца твор, у якім яна жыве. А якія святы адзначаюць беларускія Адам і Ева ў срэбры? Месцамі для іспытаў сталі галерэі «Атрыум», «Лабірынт», «Ракурс». Квэст — час, калі парушыць цішыню ў кніжніцы не забараняецца. Дазваляецца шумець, бегаць — толькі б выканаць заданні і стаць першымі. Прыз гэтага варты. На жаль, падказкі на пытанні каштуюць 3 хвіліны. Затое ёсць і бонусы. З цікавінак — фота-пытанне.

І вось першыя марафонцы ўжо на фінішы. Каля ліфта, які падыме іх на 22 паверх, сустракае незвычайны персанаж — Каралева Кніга. Яе Вялікасць правярае наяўнасць 5 ключоў. Брава! Наверх! На 22 паверсе прапануюць замацаваць поспех — бонуснае заданне: адгадаць аўтара твора па ўрыўках. Па жаданні — рашыць красворд (дадатковыя балы). І потым падлік па бонусах і часе. Пакуль прыдуць астатнія каманды, запрашаюць выйсці на 23 паверх — на знакамітую глядзельную пляцоўку. Натхніцца даляглядамі з вышыні. Здаецца, адчуванне перамогі ўсе з табой: бурлівы, напружаны інтэлектуальны марафон застаўся на ніжніх паверхах. Ды ўсё ж кульмінацыя наперадзе. Нарэшце ўсе каманды ў зборы. Гамонка на хвіліну сціхае. «Пераможцамі квэсту становіцца каманда ў складзе Ірыны Додалевай, Дзяніса Курацёва, Юліі Курацёвай, Настассі Шарашэўскай і Элы Сапега», — гучаць урачыстыя словы. І чаканы прыз! Пераможцы накіруюцца ў самае сэрца кніжніцы — фондасховішча — месца, дзе нават супрацоўнікі, за выключэннем тых, хто ў фондах працуе, не былі. Такая экскурсія ў практыцы Нацыянальнай бібліятэкі ўпершыню. Парадаваў таксама салодкі падарунак — вялікі торт з вывяай галоўнай кніжніцы. Усе атрымалі сертыфікаты ўдзельнікаў. Ключы, якія знаходзілі, кожнаму застануцца на памяць як сувенір.

— Часам цяжка было зразумець пытанні на ляту, — дзеліцца пераможца Юлія Курацёва. — Але мы зладжана працавалі як каманда. Прыйшлі хутчэй за ўсіх, бо падзяляліся, каб выконваць заданні паасобку. Так паскорылі час. Я падпісчык бібліятэкі ўжо даўно, але ніколі не была ў зале рэдкай кнігі. Спадабалася. Наведаю яшчэ.

— Бібліятэка адкрылася з іншага боку, — выказваецца пераможца Настасся Шарашэўская. — Прыязджаю сюды працаваць, ды заўсёды кнігі — чытальная зала — камп'ютар. А сёння шмат новага, пазнавальнага.

Сэрца б'ецца часцей. Разам з сэрцам кніжніцы. Прымаць гасцей — адказна, тым больш пераможцаў. «Усё фондасховішча падзяляецца на 4 сегменты, якія паміж сабой звязаны дзвярыма, — спускаючыся па незадымляльнай лесвіцы, расказвае намеснік дырэктара па інфармацыйных рэсурсах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Таццяна Кузьмініч. — Супрацоўнікі знаходзяцца ў ядры. Сюды паступаюць запыты чытачоў».

Фондасховішча Нацыянальнай бібліятэкі — ромбакубаактаэдра ў 74 метры вышынёй — з 6 па 16 паверхі. Тры паверхі — гэта чытальныя залы, на 5-м — цэнтральнае сховішча ўсіх кантэйнераў і цэнтральны пульт упраўлення, з 17-га па 21-ы — Нацыянальны архіў. На 15 паверсе знаходзіцца кніжны фонд, які актыўна запытваецца карыстальнікамі.

А колькі ўвогуле кніг у бібліятэцы? «9 мільёнаў 437 тысяч — дзейны фонд — тое, чым абслугоўваюць чытачоў, да чаго чытачы маюць доступ, — адказвае Таццяна Кузьмініч. — Гэта прыкладна 6 мільёнаў кніг, 3 мільёны часопісаў (газеты ў гэты пералік не ўваходзяць — амаль 60 тысяч падшывак), ноты (130 тысяч), картаграфія (больш за 20 тысяч), *CD-ROM*ы, дысертацыі (з 1995 года) — прыкладна 11 тысяч, мікрафільмы. Ёсць так званыя службовыя фонды. Фонд міжнароднага дакументаабмену. У нас больш за 200 партнёраў у 57 краінах свету. Набываем беларускую кнігу, якая запатрабавана, напрыклад, у ЗША. Дарэчы, з бібліятэкай Кангрэса ЗША мы абменьваемся дакументамі з 1924 года, за выключэннем перыяду Другой сусветнай вайны. Ёсць яшчэ так званы рэзервовы фонд. Фонд нацыянальных дакументаў захоўваецца вечна. Збіраем абсалютна ўсё, што выдадзена на тэрыторыі Беларусі, створанае на беларускай мове ў свеце, пра Беларусь, беларусамі.

Ёсць яшчэ важны службовы фонд — больш за 100 тысяч — фонд унутрырэспубліканскага дакументаабмену і пераразмеркавання дакументаў, рухомы. У год у асноўныя фонды Нацыянальнай бібліятэкі паступае 130 000 асобнікаў новай літаратуры».

Як і ва ўсіх буйных бібліятэках свету, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі фармальная расстаноўка дакументаў. Гэта значыць, змест дакумента пры расстаноўцы не ўлічваецца. Глядзім: выданне па будаўніцтве, а побач — «Славянскі базар». Можна расстаўляць кнігі як заўгодна. Галоўнае — каб было зручна, каб супрацоўніку не трэба было ўвесь час кнігі падсоўваць. Важна мець якасныя пошукавыя сістэмы і прапісаць шлях да кожнай кнігі. У нацыянальнай бібліятэкі ён вельмі складаны. «У параўнанні са старым будынкам, дзе было 2 ці 3 узроўні, тут узроўняў шмат. Кожны запыт паступае на пэўны этаж. Потым — на пэўны сегмент, потым зона, рад і, нарэшце, лічбавае і літарнае абазначэнне». Па запатрабаванні чытальных залаў кнігі перадаюцца ў падсобныя фонды. Ромбакубаактаэдр даволі складаны ў разрэзе, таму стэлажы расстаўлены па-рознаму. Можна ўбачыць 19 мадыфікацый разнастайных цялежак, у тым ліку з прыступкамі, якія дазваляюць узяць кнігу са стэлажа. Стэлаж вышынёй 2,20 м. Гэта бібліятэчны стандарт, хаця ў свеце ёсць і больш высокія. Мабільныя стэлажы — 2,50 м. Ёсць бібліятэчны стандарт па рэстаўрацыі і кансервацыі кніг, там пазначана: бібліятэчныя фонды павінны захоўвацца пры тэмпературы 18±2°С і вільготнасць — 50 — 55 %.

Усяго ў фондасховішчы некалькі аддзелаў. У аддзеле кнігазахоўвання, напрыклад, працуюць 44 чалавекі, абслугоўваюць 10, 11, 12 і 15 — 4 паверхі — і закрываюць тры змены.

Напэўна, многія назіралі, як пад столлю Нацыянальнай бібліятэкі носяцца загадкавыя скрынкі. Не заўважыць іх немагчыма, па крайняй меры, не пачуць. Бзомкаюць, бы пчолы. Хто імі кіруе? Дзіва. Падумаць толькі: аказацца ў пункце іх адпраўлення, убачыць пульт! Падыходзіць супрацоўнік, кладзе кнігі ў скрынку, націскае кнопку і — у добры шлях. Кнігі адпраўлены карыстальніку. Гэта сістэма аўтаматычнай дастаўкі дакументаў. Скрынкі нямецкай кампаніі «Тэлеліфт». Яны рухаюцца па рэльсах, даўжыня якіх — амаль кіламетр (893 метры). Яны спалучаюць ўсе этажы фондасховішча, акрамя 16-га, з чытальнымі заламі, з абанементам, з аддзелам камплектавання і каталагізацыяй. Скрынка размешчана так, што, пад якім бы вуглом ні ішла, цэнтр вагі ўвесь час забяспечвае гарызантальнае размяшчэнне кнігам. Фантастыка. Таму нічога не вывальваецца. У скрынку ўмяшчаецца прыкладна 10 кг кніг. Фармат крыху большы чым А4, меншы чым А3.

На 14 паверсе — перыядычныя выданні актыўнага попыту, на 13-м — пасіўнага (84-га года і ніжэй). Актыўны фонд — на больш высокіх паверхах, таму што мабільнае абсталяванне працэй спускаць, а не падымаць. 14 паверх знаходзіцца на адмоўным ухіле. Вокны літаральна ляжаць. Такая асаблівасць ромбакубаактаэдра.

Уражвае замежны фонд: замежныя выданні дарэвалюцыйныя і даваенныя. Фаліянты — ажно захоплівае дух! Самая цяжкая кніга — больш за 40 кг. Ёсць такія, што і не падняць. З 1801 года выданні замежная кніга захоўваецца ў асноўным фондасховішчы, а што выдадзена да 1801-га, ідзе ў рэдкую кнігу. Усяго замежных выданняў, створаных да 1993 года, — 600 тысяч.

Падлога ў фондасховішчы з полівіталноксу. Зручны ў прыбіранні. Кажуць, тэрмін яго карыстання — 250 год. «Пажывём — пабачым», — усміхаецца экскурсавод Таццяна Кузьмініч.

«Пераезд мы закончылі за 51 дзень (распачалі 4 студзеня, потым былі вельмі моцныя маразы, і на тыдзень спынілі), — успамінае Таццяна Кузьмініч. — Працавалі аднамомантна ад 1 000 да 1 500 чалавек. Хаця тады ў бібліятэцы было крыху больш за 460 супрацоўнікаў. Акрамя 9 млн фонду, перавезлі 52 тоны каталогаў. Было 18 тысяч 970 скрынак, у кожнай максімальна 1 000 картак».

Наступны квэст не за гарамі — у кастрычніку. І новыя адкрыцці!

**Наталля СВЯТЛОВА,**
**фота аўтара**



*Пераможцы квэсту «Бібліядэсант» — Юлія Курацёва, Ірына Додалева, Эла Сапега, Дзяніс Курацёў, Настасся Шарашэўская — трапілі ў сэрца «алмаза ведаў».*

# Нібы сям’я

## Айчынныя і замежныя графікі і дызайнеры аб’яднаныя «Ідэяй»

Ідэя, здольная ператварыцца ў моцнае мастацкае слова, здольная захапіць заклікам і змястоўнасцю, — важны кампанент творчасці любога мастака. На працягу чэрвеня секцыя графічнага дызайну Беларускага саюза мастакоў у Палацы мастацтваў прэзентуе цікавы выставачны праект графічнага дызайну «Ідэя», мэта якога — адлюстраваць працэсы сучаснасці не толькі ў краіне, але і расказаць пра падзеі, што адбываюцца за мяжой.

### НЕ АБМЕЖАВАНЫЯ

Секцыя графічнага дызайну Беларускага саюза мастакоў на працягу доўгага часу дэманструе крэатыўнасць і канцэптуальнасць. А выстаўка «Ідэя» — выдатны прыклад таго, як айчынныя графікі і дызайнеры імкнуцца прытрымлівацца арыгінальнасці і як захапляюць навізной і свежасцю думак. Удзельнічаюць у экспазіцыі як беларускія, так і замежныя аўтары.

Стваральнікі экспазіцыі «Ідэя» не былі абмежаваныя тэматыкай, жанрам або фарматам. Падбіралі работы, якія адлюстроўваюць праблему альбо паказваюць вынікі пэўных палітычных, эканамічных і сацыяльных падзей. Асноўная частка экспазіцыі — творы, прызначаныя працягваць і развіваць традыцыі нацыянальнага графічнага дызайну, традыцыі заснавальнікаў авангарду 20-х гадоў. Выставачныя аб’екты прадстаўлены ў розных жанрах графічнага дызайну. Гэта плакат, распрацоўка фірмовага графічнага стылю, знака, лагатыпу і таксама дызайн-арт.

Адкрываў выставачны праект «Ідэя» куратар экспазіцыі, мастак, старшыня секцыі графічнага дызайну Беларускага саюза мастакоў Сяргей Саркісаў, які падзяліўся з наведвальнікамі, як ішла падрыхтоўка, і расказаў, чаму менавіта «Ідэя» стала сімвалам і назвай праекта:

— Праект «Ідэя» паказвае магчымасці і маштаб беларускага графічнага дызайну. Увогуле праект называецца так, таму што творчая ідэя — галоўны кампанент працэсу стварэння твора. Мы арганізавалі не проста выстаўку плакатаў, а выставачны праект, дзе экспануюцца сапраўдныя, прафесійныя творы мастацтва, не абмежаваныя ні фарматам, ні тэматыкай. Гэта своеасаблівае пасланне ў прастору мастакоў, якія дакранаюцца да тэм і падзей нацыянальнай культуры. Прафесія графічнага дызайнера, як лакмусавая паперка, рэагуе на час і схільная да працэсаў моды. У патрабаваннях да ўдзелу ў выставачным праекце «Ідэя» не было пункту аб прадстаўленні менавіта работ апошніх гадоў, аднак практычна ўсе творы, прадстаўленыя ў зале Палаца мастацтваў, новыя, актуальныя, прызначаныя асэнсоўваць навакольныя працэсы менавіта сучаснага перыяду.

### ПРАБЛЕМНАЕ

Ёсць у экспазіцыі такія плакаты, якія, здаецца, гучаць у прасторы. Яны тычацца пытанняў калісьці нявырашаных, але якія пакінулі ў душы вялікі адбітак. Напрыклад, плакаты беларускага мастака і дызайнера Уладзіміра Цэслера закранаюць тэму згубленых вёсак. Тут няма канкрэтнага абвінавачвання: зрабіў адзін чалавек, народ альбо гэта вынік пэўных сацыяльных працэсаў. Аўтар прапануе паразважаць і самому вырашыць, наколькі страшна губляць роднае. Яшчэ адна тэма, закранутая Уладзімірам Цэслерам, — супрацьстаянне матэрыяльнага. Адлюстраваўшы сюжэт, — на фоне вялікага дарагога аўтамабіля стаіць чалавек, апрануты ў сялянскае адзенне і не пускае яго праехаць далей (твор падпісаны словазлучэннем «Абаронім Маскву») — аўтар дэманструе захаванне ў нашым часе двух светаў, у якіх розныя мэты, пажаданні і аднолькава негатыўныя адносіны адзін да аднаго. Тут таксама ўзнікае пытанне: гэта з’ява сучаснасці альбо тэндэнцыя, якая існуе на працягу стагоддзяў.

Адна з балючых частак экспазіцыі, прадстаўленая ў далёкім кутку Палаца мастацтваў, закранае дзве буйныя трагічныя падзеі: 30-годдзе Чарнобыльскай катастрофы і 5-я гадавіна аварыі на Фукусіме. Катастрофы адбыліся ў розны час і ў далёкіх краінах, але маюць нямала агульнага. Айчынныя і замежныя




*Анастасія Тарачанка «Міфічныя істоты».*

графічныя дызайнеры падрыхтавалі серыю плакатаў, у якіх паспрабавалі перадаць памяць пра дзве катастрофы, якія знішчылі жыцці многіх людзей. Кожны аўтар па-свойму паспрабаваў адлюстраваць пачуццё небяспекі праз прызму трагічнага. На адных плакатах сюжэты насычаныя: у цэнтры — чырвоная пляма, вакол прастору ахопліваюць чорныя адценні, на іншых — мінімалістычныя: на блакітным фоне такое ж блакітнае вока, якое ледзь трымае балючую слязу. Серыя, прысвечаная Чарнобылю і Фукусіме, была распачата ў красавіку. Яна заклікана паказаць перажыванні творцаў. Тут нават незаўважна розніца, адкуль прывезены работы. Усе творы сэнсавыя, насычаныя болем. Яны аб’яднаў ўдзельнікаў экспазіцыі агульнай мэтай, нібы сям’ю. Па словах арганізатараў, прадстаўленыя творы павінны сфарміраваць у гледачоў новую экалагічную свядомасць.

Калекцыя экалагічных плакатаў, што ўвайшла ў конкурсныя шорт-ліст міжнароднага біенале графічнага дызайну «Залатая пчала» і міжнароднага трыенале экалагічнага плаката «4-й блок», — адна з галоўных серый праекта. Заклікі берагчы і любіць сваё, нягледзячы на вялікую прыцягальнасць іншых краін, чытаюцца ў кожнай рабоце.

### «ТЭАТРАЛЬНЫ ПІЯР»

Серыя тэатральных плакатаў, падрыхтаваная айчыннымі графікамі, у экспазіцыі прадстаўлена асобным блокам. Тут няма звыклых фотаздымкаў акцёраў і сцэн спектакляў. Айчынныя графікі бачаць афішу як стыльны кампанент да спектакля, які ўжо толькі візуальна — своеасаблівы піяр тэатральнай пастаноўкі: напрыклад, плакаты дызайнера Кацярыны Шавель, распрацаваныя спецыяльна для Тэатра імя Максіма Горкага на спектаклі «Ноч» (У. Шэкспір) і «Жаніхі» (М. Гогаль), зацікаўліваюць падыходам выканання. Работы аўтаркі прадстаўлены ў адным каляровым вырашэнні. Вялікую ўвагу мастачка надае беламу і чорнаму, дабаўляючы чырвоны. Кацярына Шавель любіць працаваць з тварамі, выяўляючы іх у інтрыгуючым выглядзе: можа, напрыклад, адлюстраваць частку твара і, абапіраючыся на тэхніку авангарду, прадставіць яго ў форме квадрата альбо асобным рысам надаць фігурнае выяўленне. А вось аўтарка Дар’я Лебедзева,



*Кацярына Шавель. Афіша для тэатра імя М. Горкага.*

якая падрыхтавала афішу для спектакля «Кармэн», дакладнасці форм пазбягае і імкнецца да адлюстравання павольнага сюжэта: вынік выкарыстання свабодных хваляў. Дар’я Лебедзева не прыхільніца аднаго стылю — мастачка эксперыментуе. У афішы да оперы «Травіята» выкарыстоўвае пяшчотны вобраз аголенай, вытанчанай жанчыны, нібыта пазбаўленай колеру твару і цела, на фоне блакітнай прасторы.

Серыя балетных плакатаў не менш цікавая і невераготна ўнікальная. Плакаты з пуантамі беларускіх артыстак балета — як сімвалы акцёрскага вобраза. Галоўныя атрыбуты балерын падпісаныя імёнамі і адзначаныя колькасцю спектакляў і рэпетыцый.

Выставачны праект «Ідэя» — добрая пляцоўка ўзаемадзеяння аўтараў розных краін, дзе, з аднаго боку, кожны — індывідуальны мастак, прафесійны майстар, а з іншага — творцы аб’ядноўваюцца ў адну вялікую суполку, дзе вучацца дзяліцца асабістымі ўражаннямі і знаходзяць прыхільнікаў. Асабліва важна, як мастакі адчуваюць, што адбываецца побач і што неабыякава ставіцца да гэтых працэсаў. Гледачу яны прапаноўваюць цэлы свет, насычаны як эмоцыямі дабрыні і свята, так і фрагментамі памяці.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Расправіць крылы



*Валерыя Букіна «Галактыка».*

У кожнага ў жыцці штосьці бывае ўпершыню. Першае пачуццё, першае падарожжа, першая выстаўка… Як першы ўдых. Як нараджэнне. Як акунанне ў непрадказальнае мора. Якую хвалю лавіць? Як адбівацца ад шторму? Цісне боязнасць, няўпэўненасць. У самы час — падтрымка, аднадумцы. У дзіцячай бібліятэцы № 6 імя В. Віткі г. Мінска прадстаўлена дэбютная выстаўка «Мелодыя колеру» навучэнцаў гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка.

20 юных мастакоў ад 14 да 18 гадоў. 24 работы — жывапіс, скульптура. Першая спроба сябе паказаць і даведацца, што думаюць пра тваю творчасць.

Планка крытычнасці высокая: маўляў, мае работы недастаткова добрыя, навошта іх паказваць? Як стану прафесіяналам — тады. Але ж трэба рабіць першы крок. Пачынаць заўсёды складана. Спроба пяра неабходная.

Адзначае каардынатар выстаўкі, педагог-псіхолаг гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка Сняжана Сікорская:

— На працягу месяца ў гімназіі-каледжы мастацтваў працавала камісія. Мастакі-прафесіяналы адабралі лепшыя работы.

Выстаўка дадасць смеласці выходзіць на шырокую публіку, перакарана Сняжана Сікорская. Чым старэйшы студэнт, тым больш крытычна ён ставіцца да сваіх работ. Хай гэта першая ступень, але дэбют.

— Мы рады такім выстаўкам, бо бібліятэка — не толькі храм кнігі, але і храм душы, прыгажосці, культуры, — лічыць загадчык 6-й дзіцячай бібліятэкі імя В. Віткі Тамара Патук. — Тут павінна быць усё. Наша бібліятэка спалучае і музей (філіял музея часопіса «Вясёлка»), і самадзейны лялечны тэатр «Пацешка», дзе больш як 30 лялек (дзякуючы яму мы прэзентуем новыя беларускія кнігі: выйшла кніга — у нас спектакль), і выставачную пляцоўку. Больш за 14 гадоў мы выстаўляем работы дзяцей: працавалі са школамі мастацтваў г. Мінска. Выстаўляліся таксама выкладчыкі.

Загадчык кніжніцы выказала спадзяванне, што супрацоўніцтва з гімназіяй-каледжам працягнецца і сённяшні дэбют адкрые дарогу для новых сустрэч.

— Час рухацца далей і выходзіць за межы родных сцен, — дзеліцца навучэнка гімназіі-каледжа Валерыя Букіна (17 гадоў). — Работай «Галактыка» я хацела адлюстраваць сваё бачанне прасторы. Тое, што вакол нас, — таксама галактыка. Ва ўсім свабода, гармонія, і разнастайнасць. Гэтыя работы — першы палёт, першае намаганне.

У 2017 годзе гімназія-каледж мастацтваў будзе святкаваць 55-годдзе. Шматлікія выпускнікі гімназіі-каледжа — вядомыя дзеячы культуры нашай краіны, сярод якіх і акадэмікі Беларускай акадэміі мастацтваў У. Савіч, Р. Сітніца, У. Вішнеўскі, С. Гарбунова, скульптары К. Селіханаў, У. Янушкевіч, А. Дранец і іншыя. Гонар установы таксама пяць узорных дзіцячых калектываў, якія вядуць вялікую канцэртную дзейнасць. Больш за 160 навучэнцаў — лаўрэаты рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў і выставак. Гэта і залатыя прызёры конкурсу харавых калектываў у горадзе Нерпелце (Бельгія), фартэпіяннага конкурсу ў Сіэтле (ЗША), конкурсу юных мастакоў у Токіа (Японія), конкурсу скульптараў у Дрэздэне (Германія). За апошнія гады каля 20 навучэнцаў сталі стыпендыятамі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Перайграць і пераспяваць

**Фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік» з самага пачатку ставіў мэты адраджэння і папулярызацыі рэгіянальных музычных традыцый, раней забытых музычных народных інструментаў. Сёлета ў ім удзельнічалі 16 творчых калектываў і каля 20 індывідуальных выканаўцаў з усіх рэгіёнаў Беларусі, а таксама з Літвы, Латвіі, Польшчы, Расіі, Эстоніі... Кожны фестываль заўсёды паказвае развіццё гэтага жанру. Пра тое, у чым сёння крыніцы развіцця Міжнароднага фестывалю народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік», што адбыўся ў сярэдзіне чэрвеня ў Паставах 26-ты раз, наша размова з намеснікам Беларускага фонду культуры Тадэвушам Стружэцкім, аўтарам праекта і нязменным арганізатарам:**

— Трэба адзначыць, што з кожным годам фестываль праводзіць складаней, таму што новыя творчыя калектывы кожны год не з'яўляюцца. Тым не менш гэта фактычна адзіны фестываль у рэспубліцы, які папулярызуе народную музыку, а колькасць калектываў даволі вялікая, для іх няма шырокіх магчымасцей дэманстраваць свой творчы ўзровень. Таму фестываль павінен заставацца, але ён павінен і развівацца. Каб выканаць гэтую задачу, арганізатары і ўдзельнікі павінны знаходзіцца ў пастаянным пошуку, таму што калектывы новыя з'яўляюцца, іх трэба своечасова заўважыць і падтрымаць. Гэта клопат перш за ўсё абласцей, рэгіёнаў, якія павінны выяўляць калектывы і накіроўваць іх. Але не заўсёды ў абласцях адказна ставяцца да адбору ўдзельнікаў. На гэтым фестывалі практычна на 70 працэнтаў былі прадстаўлены калектывы, якія прымалі ўдзел у фестывалі раней. Калі калектыў быў лаўрэатам 10 гадоў таму, то гэта не значыць, што ён не мае права прымаць удзел далей. Але рэгіёнам трэба думаць, як падтрымаць новастворaныя творчыя калектывы.

Падчас фестывалю мы вялі сур'ёзную гаворку на «круглым стале» з удзелам членаў журы, кіраўнікоў творчых калектываў, дзе абазначылі надзённыя задачы і набалелыя праблемы. Практычна ўсе кіраўнікі творчых калектываў пагадзіліся з крытыкай, якая прагучала ў іх адрас, і падзякавалі, што такая гаворка адбылася, таму што ім не падказвалі, як вырашаць тыя ці іншыя хібы. І зноў узнікае тэма прадстаўніцтва на фестывалі. Калі гэта раённы ці абласны фестываль, то, напэўна, могуць прымаць удзел у ім усе калектывы і гэта для іх будзе творчай падтрымкай. Але калі рэспубліканскі або міжнародны фестываль, то на ім павінны быць прадстаўлены лепшыя творчыя калектывы, якія адраджаюць і папулярызуюць рэгіянальную культуру. Яны павінны быць адметнымі, цікавымі, дакладнымі ў шырокім сэнсе: і музычны інструментарый, і рэпертуар, і манера выканання, і касцюмы, і г. д. У час «круглага стала» былі зроблены заўвагі кіраўнікам калектываў на неадпаведнасць музычнага інструментарыю дадзенаму рэгіёну, на прысутнасць у ансамблі народнай музыкі інструментаў эстраднага кірунку. Гэта заўсёды выбіваецца з агульнай структуры выканання, таксама як і рэпертуар. Адна справа, калі палешукі з Іванава прыязджаюць і паказваюць свае рэгіянальныя творы — палескія найгрышы ці танцы, — і зусім іншае, калі прыязджае ансамбль з Віцебшчыны, а гучаць папулярныя музычныя творы альбо песні, якія бытуюць па ўсёй рэспубліцы і не характэрны для гэтага рэгіёна.

**— А што наконт індывідуальных выканаўцаў?**

— Фестываль «Звіняць цымбалы і гармонік» з самага пачатку быў адметны тым, што ў ім прымалі шырокі ўдзел індывідуальныя выканаўцы: гарманісты, скрыпачы, бубністы і музыкі, што граюць на іншых народных інструментах. Праводзіцца і конкурс: хто каго перайграе і пераспявае. Па сутнасці, гэты конкурс застаецца, ён заўсёды з'яўляецца цэнтральным мерапрыемствам фестывалю, але індывідуальных выканаўцаў, на жаль, прыязджае нямнога. Гарманісты яшчэ існуюць, хаця адметная школа гарманістаў, на мой погляд, губляецца. Таму што дзясятак гадоў таму мы мелі не адзін дзясятак унікальных гарманістаў з асаблівай манерай выканання і адлюстраваннем рэгіянальнай музычнай культуры. Мала прадстаўлена скрыпачоў з народнай манерай выканання, таксама дудароў, дудачнікаў. Дарэчы, і цымбалістаў таксама нямнога, як і ў цэлым на фестывалі: вобласці чамусьці не адшукваюць і не накіроўваюць ансамблі цымбалістаў, хаця назва самога фестывалю красамоўная. Яшчэ адна праблема ў тым, што творчыя калектывы сёння маюць абмежаваныя магчымасці канцэртных выступленняў.

**— Хоць кожны раён мае свае святы…**

— Чым менш калектывы выступаюць, маюць менш замежных паездак, тым хутчэй яны губляюць форму. Таму і фестывалі павінны існаваць, каб даваць магчымасць выступаць яшчэ і яшчэ. І на іх павінна быць сістэма адбору. Раней, калі мы праводзілі вялікія фестывалі, напрыклад, «Беларусь — мая песня», існавала сістэма адбору. Практычна кожны калектыў меў магчымасць удзельнічаць у фестывалі: спачатку на рэгіянальным, занальным і абласным адборачных турах. Лепшы калектыў мог прайсці ўсе прыступкі і дасягнуць рэспубліканскага фестывалю альбо ўсесаюзнага ці міжнароднага. На жаль, такой сістэмы на сёння практычна не існуе ў абсалютнай большасці фестываляў, гэта адразу адбіваецца на творчым узроўні калектываў.

**— Ёсць аб'ектыўныя прычыны, чаму народных музыкаў мала: пакаленне, якое трымалася каранёў, сыходзіць…**

— Для нашага фестывалю народнай музыкі заўсёды было важна бачыць людзей старэйшага ўзросту, носьбітаў традыцый. Я магу назваць дзясяткі выканаўцаў і кіраўнікоў творчых калектываў, якія самі пераймалі ад сваіх дзядоў і бацькоў школу музіцыравання. На жаль, людзей старэйшага ўзросту на фестываль прыязджае ўсё менш і менш. Але ёсць магчымасць перайманне гэтых традыцый: захаваліся запісы, падручнікі,



даследчыя матэрыялы нашых навукоўцаў, і сёння любы творчы калектыў, ансамбль народнай музыкі павінен быў бы вяртацца да гэтых традыцый. На жаль, гэта не заўсёды адбываецца, што ўжо залежыць ад кіраўнікоў калектываў. Яшчэ адна прычына: некаторыя калектывы не могуць даехаць у Паставы з фінансавых прычын, праблем з транспартам і так далей. Не заўсёды ёсць падтрымка на ўзроўні раёнаў ці тых гаспадарак, дзе працуюць калектывы. Гэта таксама негатыўна адбіваецца на дзейнасці канкрэтнага калектыву і ў цэлым на развіцці дадзенага жанру. Уплыў сучаснай масавай культуры таксама накладвае адбітак, і тады мы бачым «салянкі», якія прывозяць на фестываль. Гэтага ўдавалася пазбягаць пры існаванні сістэмы адбору, калі працавалі эксперты, давалі парады. На мой погляд, неабходна вярнуцца да сістэмы якаснага адбору калектываў для ўдзелу ў рэспубліканскіх і міжнародных фестывалях, што дасць магчымасць значна павысіць іх творчы ўзровень... Бывае прыкра, калі калектыў выступае на нейкім вялікім міжнародным фестывалі за мяжой, але прэзентуе неадпаведную альбо недакладную музычную культуру. Можа, у замежжы і не ўсе заўважаць, але мы павінны думаць, што калектыў прадстаўляе не толькі дадзенае прадпрыемства, а Беларусь, якая мае адметную культуру. Сёння творчы ўзровень калектываў даволі высокі. Трэба разумець, што ў абсалютнай большасці калектываў ужо падрыхтаваны ўдзельнікі: музыканты з адукацыяй, не толькі сярэднеспецыяльнай, але і вышэйшай. З гэтымі людзьмі можна рыхтаваць сур'ёзныя, высокапрафесійныя праграмы. Калектыў застаецца аматарскім, таму што для ўдзельнікаў гэта правядзенне вольнага часу, змена прафесійнай дзейнасці, яны заўсёды будуць адрознівацца ад прафесійнага калектыву па форме дзейнасці. Па ўзроўні творчыя калектывы павінны дацягвацца, а можа, і пераўзыходзіць прафесіяналаў, таму што ў аматарскай творчасці ёсць адметнасць: удзельнікі не «адпрацоўваюць» свой час на сцэне, а выходзяць як на свята: дораць эмоцыі, настрой, і калектыў больш цікавы публіцы.

**— Кожны рэгіён Беларусі мае свае адметнасці. Ці азначае гэта, што ёсць магчымасць стварыць рух фестываляў народнай музыкі, каб у кожным з раёнаў маглі бачыць сваё аматарскае мастацтва?**

— І гэта тэма для абмеркавання. Незразумела, калі ў раёне няма свайго адметнага традыцыйнага фестывалю, пры тым, што кожны мае мінімум сотню творчых калектываў і можа імі ганарыцца. Я не лічу, што ў Беларусі занадта фестываляў. Толькі ў Польшчы штогод праводзіцца звыш 600 фестываляў... Ёсць фестывалі, на правядзенне якіх не патрэбныя вялікія фінансавыя выдаткі. Асабліва, калі яны ўскосна адпрацоўваюцца. Магу сказаць, што Паставы заўсёды мелі дывідэнды ад фестывалю «Звіняць цымбалы і гармонік». Кардынальна памяняўся горад, у тым ліку дзякуючы фестывалю, таму што кожны раз ён адкрывае культуру іншых краін. Не толькі ўлады горада, але і жыхары да фестывалю рыхтуюцца: прыводзяць у парадак вуліцы, падворкі і г. д. Атрымлівае прыбытак гандаль: прыязджае сотні людзей, якія набываюць тавары мясцовага вырабу, грошы застаюцца ў казне раёна. Таксама фестываль спрыяе развіццю турызму. Традыцыйны фестываль «Мотальскія прысмакі» прыцягвае вялікую колькасць турыстаў. Фестываль спрыяе адраджэнню рамёстваў, нацыянальнай кухні і так далей. Сродкі ад фестываляў заўсёды акупляюцца, уплываюць на развіццё рэгіёна.

Падаецца, што рэгламентаванасць правядзення фестываляў, што існуе ў нашай краіне сёння, ужо з'яўляецца стрымліваючым фактарам у рэалізацыі новых ініцыятыў фестывальнага руху. Функцыю яго каардынацыі можна было б без праблем перадаць Міністэрству культуры... У Беларусі нават не ўсе жанры маюць свае фестывалі. Тэатр — таксама адметны і важны кірунак народнага мастацтва, а мы не маем рэспубліканскага фестывалю аматарскага тэатральнага мастацтва. Што адбываецца ў выніку? Калі раней амаль у 80 раённых цэнтрах былі паўнавартасныя народныя тэатры, то сёння і палова раённых цэнтраў іх не мае. У тым ліку і таму, што нашы народныя тэатры не запатрабаваныя ні на рэспубліканскім, ні на міжнародным узроўні. Ці ансамблі песні і танца. Калісьці гэта быў вельмі распаўсюджаны жанр у Беларусі. Толькі ў Гродзенскай вобласці было звыш 20 ансамбляў песні і танца. На жаль, сёння такога фестывалю няма, а яны не ўпісваюцца ні ў фестываль харавога, ні ў фестываль музычнага мастацтва. У выніку ў рэспубліцы засталося менш як 20 ансамбляў песні і танца, якія мелі багатую гісторыю. Гэтую сітуацыю трэба мяняць.

**— Аматарская творчасць — гэта стварэнне чалавечага капіталу: гэтыя людзі будуць добра працаваць і лепш разумець сваю краіну…**

— Я сам прайшоў школу аматарскага мастацтва, ведаю, што такое быць удзельнікам такога калектыву. Гэта, па-першае, чалавек, які змястоўна, творча праводзіць вольны час. Але ён спрыяе змястоўнаму правядзенню вольнага часу іншых. Таму што людзі, якія прыходзяць на канцэрт, эмацыянальна ўзбагачаюцца. Гэта ўскосны, але вельмі важны ўплыў на развіццё грамадства ў цэлым. Абсалютная колькасць выступленняў — гэта бясплатныя канцэрты для сваіх жа людзей, а трэба думаць яшчэ пра тое, што сёння ёсць раёны, у якія не даязджаюць прафесійныя артысты. Акрамя радыё і тэлевізара людзі не маюць магчымасці знаёміцца з мастацтвам. Гэтую нішу спраўна запаўняюць аматарскія калектывы.

Я баюся, што калі не будзе сур'ёзнай падтрымкі гэтых калектываў на ўзроўні ўладаў, то многія з іх проста разваляцца. Аднавіць аматарскі творчы калектыў практычна немагчыма. Ёсць прыклады, калі адметныя калектывы распадаліся і ўжо не былі адноўлены. На жаль, чым больш мы маем, тым менш цэнім і зберагаем. А я ўпэўнены, што народная традыцыйная культура — адна з найважнейшых адметнасцей беларускай нацыі і нашай краіны.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Дыханне танца

## легенды беларускага балета Людмілы Бржазоўскай



Людміла Генрыхаўна Бржазоўская.

*Яму пашчасціла нарадзіцца ў сям'і мастака. Паляк па нацыянальнасці, карэнны мінчанін, Генрых Бржазоўскі сустрэўся з будучай жонкай яшчэ падчас вайны, калі яны былі ў партызанах. Дзве іх дачкі прыйшлі ў свет пасля вайны. Людміле было наканавана стаць увасабленнем крохкасці, вытанчанасці жыцця.*

### ПАЭТЫЧНАЯ АСНОВА

— Мы жылі ў двухпавярховым доме на вуліцы Старажоўскай непадалёк ад тэатра оперы і балета, у нашым дворыку была і татава майстэрня, — узгадвае народная артыстка Рэспублікі Беларусь Людміла Бржазоўская. — У гэтым жа доме нашымі суседзямі былі вядомыя мастакі — Канстанцін Міхайлавіч Касмачоў, Анатоль Дзям'янавіч Шыбнёў. Я і сястра сябравалі з іх дзецьмі і часта бывалі ў іх у гасцях, у майстэрнях, глядзелі карціны. Гэта натхняла на мары, бо асаблівых цацак мы не мелі, затое ладзілі ў двары «тэатр». А побач быў сапраўдны тэатр…

Яшчэ да вайны мама, лекар па прафесіі, марыла пра балет. Аднойчы яна сказала, што праводзіцца набор у харэаграфічнае вучылішча. Калі мы прыйшлі, была вельмі вялікая чарга, хтосьці плакаў... У мяне не па ўсіх дадзеных было ўсё добра: ногі і рукі доўгія, худыя, плечы прыўзнятыя. Але ўсё ж я паступіла ў пяты клас. Памятаю, як рана-рана ўставала і ішла са сваім чамаданчыкам у вучэльню, класы знаходзіліся на першым паверсе нашага тэатра ў правым крыле. Пачатак — а 8 раніцы, зімой на вуліцы Старажоўскай былі вялізныя гурбы. Як цяпер памятаю: па дарозе разглядаю, як блішчыць снег, і радасна, што іду ў тэатр.

Маім першым педагогам была Валянціна Андрэеўна Дудко, якая прыехала ў Мінск з Пецярбурга, а на другі год навучання мы трапілі да Ніны Фёдараўны Младзінскай. У юнацтве яна была вучаніцай Агрыпіны Ваганавай і сядзела за партай з Георгіем Баланчывадзэ. Яна прыехала ў Мінск пасля вайны: фарміраваліся трупа тэатра, таму артыстаў з іншых тэатраў даслалі сюды. Ніна Фёдараўна тлумачыла, што танец пачынаецца з дыхання, і рукі пачынаюць дыхаць першыя. Яна развіла ў нас тонкае ўспрыманне музыкі і танца, заклала паэтычную аснову. А потым я сустрэлася з Ірынай Мікалаеўнай Савельевай. Яна таксама скончыла акадэмію імя Ваганавай. Ірына Мікалаеўна ўзяла нас з шостага класа і дала добрую школу... У харэаграфічным вучылішчы ў 1965 годзе адбылася мая першая паездка за мяжу — на Міжнародны фестываль культуры ў Турцыі. Насуперак усім правілам, журы задаволіла патрабаванні публікі, і я двойчы выканала «Лебедзь, што памірае» Сен-Санса. У наступныя гады гэты «Лебедзь» пабываў са мной у многіх краінах.

### ЗАХАПЛЕННЕ БАЛЕРЫНАЙ

— Калі я прыйшла ў тэатр, галоўным балетмайстрам быў Атар Міхайлавіч Дадзішкіліяні. Маім дэбютам стала партыя Сольвейг у яго балеце «Пер Гюнт». Гэта быў па-акцёрску складаны вобраз, асабліва трагічная фінальная сцэна. Маім партнёрамі былі Леанід Чэхаўскі і Валянцін Давыдаў.

Яшчэ адзін спектакль Атара Дадзішкіліяні — «Рамэа і Джульета», у якім склаўся наш дуэт з Юрыем Траянам (ён станцаваў у якасці дэбюту Машэку ў «Выбранніцы» Яўгена Глебава).

Мы паехалі на стажыроўку ў Ленінград, у Кіраўскі тэатр. Такую ўнікальную магчымасць мы атрымалі дзякуючы Яўгену Канстанцінавічу Міхневічу (у той час міністр культуры), які шмат зрабіў для беларускага мастацтва, не прапускаў ніводнай прэм'еры. У Кіраўскім тэатры я займалася ў класе ў Наталлі Міхайлаўны Дудзінскай (народная артыстка СССР, вучаніца Ваганавай), Траян — у Аляксандра Іванавіча Пушкіна (педагог Міхаіла Барышнікава і Рудольфа Нурыева). Клас, які давала Дудзінская, быў складаны. Рэпеціравалі «Лебядзінае возера» з Дудзінскай і Сяргеевым і станцавалі з Юрыем Траянам на сцэне Кіраўскага тэатра. Былі там усяго толькі чатыры месяцы, але прысутнічаць на рэпетыцыях і чуць заўвагі, якія робіць Дудзінская, ці пабываць на рэпетыцыях «Прыгажуні, што спіць» у Калпаковай — гэта ўжо велізарная школа…

Калі я танцавала свае партыі, то не эмоцыямі з жыцця кіравалася — выкарыстоўвала, хутчэй за ўсё, захапленне балерынай, у прыватнасці, Галінай Уланавай. Яна стварыла раскошны лад Жызэлі, асабліва ў першым акце — я не ведаю больш праўдзівага, смелага, цікавага выканання. Другі акт я бачыла ў выкананні многіх цудоўных балерын, напрыклад, кубінкі Алісіі Алонса. Любіла Маю Плісецкую. Была ў яе на рэпетыцыях, на спектаклях. Яе «Раймонда», яе рукі ў «Лебядзіным...», яе скачкі ў «Бахчысарайскім фантане», у «Дон Кіхоце» — гэта гарачыня, сіла...



У балеце «Лебядзінае возера» з Юрыем Траянам.

### ЯК БРЫЛЬЯНТ

— Майстэрства балерыны шліфуецца як брыльянт: чым больш спектакляў розных балетмайстраў, чым больш яна танцуе і мадэрн, і класіку, і характарныя танцы — тым больш дасканалай стане.

У першыя гады працы ў тэатры мы сустрэліся з Нінай Міхайлаўнай Стукалкінай і Аляксеем Леанідавічам Андрэевым. Яны паставілі ў нас «Раймонду». З Нінай Міхайлаўнай я рабіла і «Лебядзінае возера», і «Бахчысарайскі фантан», і «Вальпургіеву ноч». Яна рэпеціравала са мной і вельмі шмат дала, таму што была і выдатным майстрам сцэны, і балетмайстрам. «Лебядзінае возера» і «Спартак» у пастаноўцы Атара Дадзішкіліяні мы танцавалі на гастролях у Фінскай оперы.

Якраз перад намі ў Хельсінкі танцавала «Жызэль» француженка з «Гранд Апера», усе сэрцы былі скіраваны да яе. Калі мы прыйшлі на першую рэпетыцыю з трупай, усе артысты сядзелі і холадна на нас глядзелі, але як толькі загучала музыка, мы сталі танцаваць, фіны заўсміхаліся, мы адчулі, што ім падабаемся, а потым многія з іх сталі нашымі сябрамі. Заслону адкрывалі восем разоў, публіка тупала нагамі — у нас гэта не прынята. У канцы спектакля, калі мы выйшлі на паклон, мне паднеслі два букеты — белых і чорных руж, як сімвал белага і чорнага лебедзя. Гэта было дзіўна, таму што я ніколі яшчэ не бачыла чорных руж. Была вельмі добрая прэса — шмат рэцэнзій на «Спартак» і на «Лебядзінае...».

Далей быў прыход у трупу Валянціна Мікалаевіча Елізар'ева. Малады харэограф, аднаго ўзросту з намі, у такім жа пошуку. Першы яго спектакль тут быў «Кармэн-сюіта». Мы бачылі нямала спектакляў «Кармэн»: і з Маяй Плісецкай, і спектакль Ралана Пеці, і пастаноўкі іншых харэографаў. Але не ўяўлялі, якая Кармэн будзе ў нас: думалі, з ружай у чорнай ці белай сукенцы, як у оперы. Але калі мастак Яўген Лысік прывёз эскізы, усё аказалася зусім па-іншаму. І калі мы ўбачылі дэкарацыі, выйшлі на сцэну — велізарную, адкрытую. Гэта бясконцая прастора, амаль космас душы і цела, і думкі. Вядома, Валянцін Мікалаевіч паказаў, што ён вельмі таленавіты чалавек: мог прыдумаць неверагоднае, напрыклад, замяніць кінжал на абдымкі, ад якіх Кармэн гіне. Але самае галоўнае — харэаграфія Елізар'ева — як карункі: зробленая на кожную ноту, на кожны нюанс музыкі. Настолькі цікава! Спектакль атрымаўся і сучасным, і класічным. А цяпер спектаклі Елізар'ева можна назваць класікай: яны вытрымалі ўсе выпрабаванні.

### ЛЮДЗІ КУЛЬТУРЫ

— Мы знайшлі з Юрыем Траянам адзін аднаго як асобы ў мастацтве, таму нам было цікава працаваць разам. Дасягнулі досыць высокіх вынікаў. Абмяркоўвалі гэта і дома, і на працы. Не магу сказаць, што я была вельмі добрай гаспадыняй, мне заўсёды дапамагала мама. Яна не прапусціла ніводнага майго спектакля, і пасля кожнага выступу мы абмяркоўвалі, што было добра ці дрэнна і ў рухах, і ў гарнітуры, і ў прычосцы. Калі мы паехалі ў Маскву на гастролі, яна напісала мне цэлы сшытак парад. Побач заўсёды была сястра, блізкі чалавек…

Наогул, побач былі цікавыя людзі. Цудоўныя паездкі ў нас былі з Наталляй Міхайлаўнай Садоўскай. Яна з вядомай плеяды драматычных акцёраў Садоўскіх, але стала балярынай, танцавала ў Вялікім тэатры, а потым занялася тэатральным крытыкай і арганізацыяй гастрольнай дзейнасці. З ёй мы аб'ездзілі краіны Усходу — Індыю, Шры Ланку, Малайзію, Сінгапур, Іарданію… Наталля Міхайлаўна, чалавек вельмі высокай культуры, ведае мастацтва, жывапіс і архітэктуру, дзе б мы ні былі, падказвала цікавыя музеі і гістарычныя месцы. Мы дабраліся да Гімалаяў, да мясцін, дзе Мікалай Рэрых пісаў свае знакамітыя пейзажы. На фестывалі ў Кулу сустрэліся са Святаславам Рэрыхам, пабывалі ў яго ў майстэрні, ён пазнаёміў нас са сваёй жонкай (яна была ўнучкай Рабіндраната Тагора).

Таксама аб'ездзілі ўсю Еўропу. Аднойчы мы з Юрыем Траянам патрапілі на вядомы кінафестываль у Рыме, і там, на сцэне, сустрэліся з усімі зоркамі заходняга кіно. Побач са мной на рэпетыцыі сядзеў Альберта Сордзі. Ён пацікавіўся, што мы танцуем. Я адказала, што Адама і Еву. Як чалавек з гумарам, ён спытаў, ці натуральныя ў нас касцюмы, прыйшлося адказаць, што не, сінтэтычныя. Мы адтанцавалі на канцэрце, дзе выступалі таксама акцёры кіно і ўручалі прызы фестывалю. Пасля канцэрта нас нечакана запрасілі ў ложу Прэзідэнта Перціні. Дыпламат, які нас суправаджаў, вельмі ўсцешыўся, таму што за час службы ў Італіі ніколі не быў запрошаны ў ложу прэзідэнта. Тады ж пашчасціла сустрэць яшчэ з адным знакамітым чалавекам. Пасля канцэрта да мяне падышоў мужчына, паднёс духі ў дзвюх скрыначках і сказаў: «Гэта вам, а гэта вашаму Адаму». І пайшоў. У гэты час падбягае мая «апранальшчыца», махае рукамі і крычыць: «Франка Дзефірэлі». А я яго не пазнала і толькі злёгку ўсміхнулася!

Пасля канцэрта мы з Траянам рынуліся па начным Рыме. Я была на высокіх абцасах, але мы прайшлі пешшу кіламетраў 18. Калона Траяна — першае месца, куды мы рушылі, і Калізей, і гэтыя бясконца раскошныя плошчы, і сабор, дзе сабраны скульптуры Мікеланджэла. Пасля наведвання Калізея «Спартака» пачынаеш танцаваць па-іншаму.

### ПРАЦЯГ

— Я сышла са сцэны праз некалькі гадоў пасля нараджэння сына. Выйшаўшы на пенсію, некаторы час працавала ў харэаграфічнай вучэльні, выкладала ў тэатральным інстытуце, зараз працую ў тэатры з нашымі зоркамі і юнымі артыстамі. Ганаруся, што магу назваць сваімі вучаніцамі такіх балерын, як Вольга Гайко, Марына Вежнавец, Людміла Кудраўцава, Ірына Яромкіна. Калі Марына Вежнавец выйшла першы раз у партыі Кармэн, яна ўразіла нават мяне, педагога, які працаваў з ёй над роляй, сваёй прыгажосцю, сваімі эмоцыямі. Калі я гляджу на Вольгу Гайко на сцэне, заўсёды захапляюся, як яна прыгожа выконвае ролю, якія ў яе царскія лініі, доўгая шыя, тонкая талія — ёю можна любавацца і любавацца бясконца. Людміла Кудраўцава, танцуючы Фрыгію або Еву, цалкам пераўвасабляецца, растварэецца ў музыцы, і я кожны раз лаўлю сябе на жаданні крыкнуць ёй «Брава!». У спектаклі «Анюта», пастаўленым у нашым тэатры Уладзімірам Васільевым, галоўную партыю выконвае Ірына Яромкіна. Я б назвала яе праўдзіва чэхаўскай балярынай, яна балерына з глыбокімі пачуццямі і перажываннямі. Сёння я працую з юнай адоранай балярынай Янай Штангей. Яна ўжо станцавала Адэту-Адылію ў «Лебядзіным возеры» і Нікію ў балеце «Баядэрка». Падчас рэпетыцый мы на адной творчай хвалі. Часам я пазнаю ў ёй сябе ў маладосці. Мае дзяўчынкі — зоркі і зорачкі — вельмі розныя і, працуючы з імі над той ці іншай роляй, я імкнуся падкрэсліць іх індывідуальнасць, мне гэта заўсёды вельмі цікава.

**Вольга САВІЦКАЯ**

# «Беларусьфільм» пра вайну:

## вялікае бачыцца на адлегласці

**Прэм'ера і пракат у кінатэатрах фільма «Я родам з дзяцінства» ў 1966 годзе не прынеслі лаўраў яго стваральнікам — рэжысёру Віктару Тураву і сцэнарысту Генадзю Шпалікаву: крытыкі былі амаль аднадушныя ў меркаванні, што гэта — творчая няўдача. Прытым, што ў карціне ўдзельнічаў культавы артыст Уладзімір Высоцкі. Але ж не толькі гэтым адметная стужка «Я родам з дзяцінства».**



*Кадр з фільма «Я родам з дзяцінства».*

Адразу пасля выхаду фільма пра яго пісалі: «...лірычны дзённік дзяцінства, што мінула, у якім падзеі, ураженні, думкі пакінутыя ў уласцівай ім знешняй нястройнасці і выпадковасці», «...у сваіх успамінах аўтары цалкам давяраюцца толькі памяці — у гэтым і бяда», «фільм не да месца перанасычаны музыкай», «рэжысёр захапляецца сцэнамі выключна бытавымі, дробязямі, нязначнымі падрабязнасцямі і выпускае з поля зроку лёс падлеткаў. А менавіта яны павінны былі стаць галоўнымі героямі фільма».

Але хіба не сталі? Юных акцёраў, якія выканалі галоўныя ролі, рэжысёр і сцэнарыст выбіралі не толькі «па таленце», але і па вонкавым падабенстве з імі самімі, тагачаснымі хлапчукамі, якія перажылі вайну і сустрэлі Перамогу. Іх вачыма глядзела з экрана дзяцінства Віктара Турава і Генадзя Шпалікава, іх галасамі яно гаварыла з гледачом. У пачатку фільма гучыць закадравы голас ад аўтара: ён кажа пра час, калі ў жыццё ўступала пакаленне, дзяцінства якога было апалена вайной.

І кінарэжысёр, і сцэнарыст, і аператар карціны — дзеці гэтага пакалення. Ім не трэба было нічога дадумваць — досыць было ўспомніць. Яны мелі на гэта не толькі творчае права, таму што перажылі разам з краінай страшны час і выжылі. У фільме няма выразнай сюжэтнай лініі, аднак практычна ўсе «непаслядоўныя» эпізоды карціны застаюцца ў памяці гледача.

..Хто хоць раз бачыў гэтую карціну, ужо не забудзе адмову хлопчыка вучыць мову ворага. І які пры гэтым твар быў у яго і настаўніцы.

...Як дырыжыраваў хорам аднарукі настаўнік спеваў.

...Эпізод, калі маці галоўнага героя Люся (Ніна Ургант) атрымлівае пахавальны ліст на бацьку: сцэн, што сыграны з такой дакладнасцю і эмацыянальным напалам, лічаныя адзінкі — нават у лепшых фільмах пра вайну. «За кадрам» застаўся факт, што падчас гэтай сцэны Ніна Ургант перажыла наймацнейшы стрэс і трапіла ў бальніцу: у яе адняліся рукі.

...Грандыёзная па колькасці занятых у кадры акцёраў масоўкі сцэна пакарання здраднікаў Радзімы. У ёй бралі ўдзел жыхары Гродна, якія яшчэ памяталі час фашысцкай акупацыі. Твары тых, хто стаяў на вялізнай плошчы, забыць нельга: людзі не ігралі — сведчылі і выкрывалі.

...Рызыкоўны эпізод, калі хлопчык ляжыць на чыгуначным палатне, а над ім праносіцца цягнік. І яшчэ адзін, аднолькавы па памяці момант, — адчайныя скачкі хлапчукоў у ваду з высокага моста праз Бярэзіну. Скакалі калісьці хлапчукамі Віця Тураў і Гена Шпалікаў — скокнулі і юныя артысты!

Група вельмі давярала рэжысёру: усе, хто прымаў удзел у здымках, разумелі: кожны кадр выверany сэрцам. Таму фільм і атрымаўся «пранізлівым і шчырым, як погляд падлетка з далёкага мінулага». Гэта цытата пра карціну прагучала ўжо ў нашы дні, калі лірычная кінааповесць «Я родам з дзяцінства» заслужана заняла пачэснае месца ў «залатым фондзе» айчыннага кінематографа. Сёлета карціна глядзіцца па-асабліваму: столькі супала дат! 75-годдзе з пачатку вайны, 80 гадоў з дня нараджэння народнага артыста СССР, кінарэжысёра Віктара Турава, 20 гадоў з дня яго сыходу...



*Кадр з фільма «Я родам з дзяцінства».*

У фільме «Я родам з дзяцінства» ўпершыню загучалі песні Уладзіміра Высоцкага ў арыгінальным выкананні. Тагачасны старшыня Дзяржкіно БССР Б. У. Паўлёнак, які пабываў на здымачнай пляцоўцы, выказаў захапленне ўсім, што пабачыў і пачуў. Атрымаўшы «дабро» ад высокага чыноўніка, Віктар Тураў узяў на сябе смеласць і даў магчымасць сябру ўдзельнічаць у здымках і праспяваць у фільме.

У карціне гучыць таксама і голас Марка Бернеса, які выканаў песню Высоцкага «На брацкіх магілах не ставяць крыжоў». І гэта было правільна: калі голас Высоцкага — знакавы голас пакалення стваральнікаў фільма і яго гледачоў, то голас Бернеса — з таго часу, у якім жывуць героі «Я родам з дзяцінства».

Віктар Тураў і Генадзь Шпалікаў марылі зняць трыпціх пра сваё пакаленне, першым фільмам якога павінен быў стаць «Я родам з дзяцінства». Але мары гэтай не наканавана было спраўдзіцца: занадта рана пайшоў з жыцця Шпалікаў. Тураў яшчэ не раз звяртаўся ў сваёй творчасці да ваеннай тэмы. У яго фільмах «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой» зноў гучалі песні Уладзіміра Высоцкага.

У фільме здымаліся выдатныя акцёры, да выбару якіх рэжысёр падыходзіў вельмі адказна, калі не сказаць прадузята. Здымкі ішлі поўным ходам, калі была праведзена замена актрысы на галоўную жаночую ролю: замест Алены Дабранрававай маці Жэнькі сыграла Ніна Ургант.

Акрамя ўсенароднага куміра Уладзіміра Высоцкага і Ніны Ургант у карціне ўзялі ўдзел Яўген Ташкоў, Барыс Руднеў, Лізавета Уварава, Рыта Гладунко, Арына Алейнікава, Уладзімір Белакураў, Павел Кармунін. Адну з цэнтральных роляў сыграла маладая жонка рэжысёра — прыгажуня Святлана Турава.

Хлапчукоў сыгралі Віктар Калодкін, Валерый Зубараў і Эдуард Доўнар. Прафесійным акцёрам ніхто з іх не стаў...

**Мацвей ПАЎЛАЎ**

# Інтэрактыўная прастора

## для прагляду кіно на працягу лета будзе дзейнічаць ў Нацыянальным гістарычным музеі

**Адкрытая пляцоўка, якая раптам ператвараецца ў кіназалу, змяняе вакол усё. На свежым паветры кіно ўспрымаецца інакш: захапляе глыбока, а прастора, дзе дэманструецца фільм, быццам трансфармуецца ў вялікую мастацкую дэкарацыю. На мінулым тыдні ва ўнутраным дворыку Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь была распачата акцыя «Беллетакіно — 2016», асноўны прынцып якой — успрымаць кіно ў свабоднай атмасферы.**

Сёлета кінаакцыя «Беллетакіно» праходзіць пад сімвалічным дэвізам «Не грошы ствараюць кіно, а людзі». Кінаакцыя арганізаваная як асобны праект фестывалю кароткаметражнага кіно «*Cinema Perpetuum Mobile*» з мэтай паказаць гараджанам маладое беларускае кароткаметражнае кіно, расказаць пра яго сучаснае становішча ў краіне і, магчыма, уразіць крэатыўнасцю і мэтанакіраванасцю маладых рэжысёраў.

Утульныя вечары з «Беллетакіно» кожны раз будуць распачынацца пад музычнае афармленне маладых беларускіх калектываў, якія спецыяльна пад фільмы рыхтуюць мелодыі, здольныя дапамагчы глыбока адчуць сэнс і ідэю кінастужкі. Пасля прагляду будзе дыскусія, дзе ўсе жадаючыя змогуць выказаць наконт фільма. Паколькі на праглядзе прысутнічаюць і рэжысёры прадстаўленых кінастужак, то гутарка павінна атрымацца дынамічнай. Успамінаючы досвед мінулага года (падчас кінаакцыі «Беллетакіно — 2015»), абмеркаванне фільмаў заўсёды было эмацыянальным: некаторыя стужкі ўражвалі, гледачы часам пачыналі крытыкаваць...

На першым паказе пад адкрытым небам ва ўнутраным дворыку гістарычнага музея (адбыўся 17 чэрвеня) дэманстраваліся беларускія фільмы з праграм фестывалю «*Cinema Perpetuum Mobile Festival 2016*», у тым ліку дакументальнай, эксперыментальнай і анімацыйнай праграмы «Дзэн / трэш». Адной з разынак кінавечара стаў прагляд сацыяльнай камедыі «Кансьерж» маладога рэжысёра Роберта Сенэкі. Гісторыя пра жыхароў шматпавярховага дома, якія незадаволеныя паводзінамі кансьержа і кожны дзень вырашаюць яго змяніць (у выніку нічога не атрымліваецца), лёгкаўспрымальная. Сінтэз гумару і бытавога кантэксту, здаецца, — простае спалучэнне, але рэжысёр закручвае сюжэт так, каб глядач да апошняга адчуваў інтрыгу і спрабаваў прыдумаць фінальную сцэну самастойна. Прадстаўленая кінастужка неаднойчы была адзначана прызамі разнастайных нацыянальных і міжнародных фестываляў. Акрамя фільма «Кансьерж» наведвальнікі музея пагледзелі кінастужку «Яно» Генадзя Буты, фільм Максіма Сарычова «Двухлапы сябар», фільм «Я жыву ў гэтым горадзе» творчага саюза рэжысёраў Мікалая Жалудовіча, Дзмітрыя Нікіфарава, Ягора Сурскага і Руслана Фядотава і іншыя.

Наступнымі вечарамі «Беллетакіно» прапануе ў праграме не толькі кіно з «*Cinema Perpetuum Mobile Festival 2016*», але і аўтарскія фільмы, зманціраваныя па матэрыялах іншых рэжысёраў. Адзіную рэтраспектыву гэтага лета прадставіць дакументаліст Максім Швед. Таксама аматары кінамастацтва атрымаюць магчымасць параўнаць творчыя работы Акадэміі мастацтваў і кінашколы-студыі Андрэя Палупанава.

Акцыя «Беллетакіно — 2016» працягнецца ў Мінску да 2 верасня. За гэты час арганізатары праекта будуць прывабліваць гледачоў разнастайнасцю і арыгінальнасцю праграмы, а таксама паспрабуюць адлюстраваць каштоўнасць і эксклюзіўнасць кароткага метра як аднаго з самых цікавых жанраў кіно. Дарэчы, у мінулым годзе кінаакцыя «Беллетакіно» карысталася поспехам асабліва ў моладзі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Адлюстраванні лёсаў

**Рэчы, якія мы часта носім з сабой, ці то гэта хустка, гадзіннік або акуляры, напаўняюцца нашай энергетыкай, ператвараючыся ў талісманы, адбіткі рэальнасці, «дакументальнае» пацвярджэнне нашага існавання. Калі гаворка ідзе пра вайну, то каштоўнасць такіх прадметаў-падарожнікаў невымерная.**



*Трафейны «МІНСК».*

Малады афіцэр Аркадзь Фрадкін сустрэўся з Лідзіяй у чыгуначным дэпо. Зарадзілася каханне. Ішоў трэці год вайны. Неўзабаве ён адбыў на фронт... І пранёс яе ліст, поўны пяшчоты і надзей на хуткую сустрэчу, у кішэні гімнасцёркі — праз усе баі. Маленькі шматок паперы саграваў сэрца і дапамог выжыць. У лістападзе 1945-га маладыя людзі нарэшце ўбачыліся і больш не разлучаліся. Але далёка не ўсе гісторыі тых трагічных дзён маюць шчаслівы фінал…

Выстаўка «Сляды вайны...» працуе ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Больш як 200 прадметаў тэхнікі, формы і амуніцыі, асабістых рэчаў, у тым ліку сувеніраў, распавядаюць не адну гісторыю пра лёсы герояў. Належаць рэчы як байцам Чырвонай Арміі, так і салдатам вермахта. Мы, нашчадкі, можам убачыць, што дапамагала ветэранам перамагаць і не здавацца, што было з імі падчас нечалавечых выпрабаванняў... Простыя рэчы, якія абаранялі ў бітвах альбо нагадвалі пра дом, родных, каханых.

Гадзіннікі, час на якіх навечна спыніўся, пропускі і партсігары, курыльныя трубкі і разьбяныя шкатулкі-падарункі, нагрудныя значкі, сталёвыя шлемы, кіцелі і рамяні, пляшкі, біноклі і акуляры... Са зброі, праўда, хіба што дубінкі. Праўда, ёсць скрыні для пераноску гранат. Значна больш сродкаў сувязі, радыёпрыёмнікаў, палявых тэлефонаў. Ёсць нават савецкая ўльтракароткахвалевая вайсковая радыёстанцыя і тэлеграфны апарат «Фельдферншрайбер».



*Гімнасцёрка капітана Аляксея Антонава.*

Ад Сяргея Каткова, педагога, мастака і аддананага ваяра, — гадзіннік. Пісьмовы прыбор з мармуру капітана Уласава. Акардэон падпалкоўніка Качаева, трафейны, нямецкі. Побач з капітанскай гімнасцёркай і кіцелем НКВД — парадны мундзір і фуражка Героя Савецкага Саюза Васіля Казлова.

Частка экспазіцыі — з фондавых калекцый музея. А вось узоры рэдкіх трафейных матацыклаў прадставіў калекцыянер-рэстаўратар Аляксей Цікуноў. Сярод іх — як тэхніка, што выкарыстоўвалася ў арміі вермахта ад фірмы DKW, так і яе аналагі, што былі даступныя ўжо на тэрыторыі СССР. Жоўта-чырвоны «ІЖ ЮПІЦЕР» 1966 года, побач старэйшы на амаль дваццаць гадоў «калега», адзначаны як 350-ты. З Мінска — чорны элегантны «МІНСК М1А». Яму таксама больш за паўвека.

Замест планшэтаў на той час былі ў «фаворы» баявыя статуты конніцы і пяхоты, а дарожная сумка магла абараніць ад кулі… Гаспадар аднаго с такіх талісманаў, Іван Малахоўскі, быў сувязным і разведчыкам партызанскай брыгады.

Беларускі мастак Яўген Ражкоў ваяваў у стралковым палку, а ў перапынках выпускаў баявыя лісткі і рабіў замалёўкі для франтавых газет. Тройчы паранены, цудам застаўся жывы. Насіў пад сэрцам мініяцюрны абразок святой Ефрасінні Полацкай, які мама дала як абярэг.

За шклом у музеі нават цэлы несесер з акуратна складзенымі прадметамі (нажніцы, люстэрка, брытва, колба, грабеньчык...) паходнага рыштунку генерал-лейтэнанта артылерыі Георгія Пласкова.

Да слёз уражвае калекцыя лістоў мужа і жонкі Трыфанавых. Перад вайной Валянціна і Юрый вучыліся ў адной школе, разам паступалі ў Ленінград, пабраліся шлюбам. Але 1941 год зрабіў свае карэкціроўкі. Юрый быў мабілізаваны і служыў ардынатарам хірургічнага аддзялення ў адным са шпіталяў, стаў камандзірам медыцынскай роты... Валянціна перажыла блакадны Ленінград, эвакуацыю ў Волагду і Архангельск. Толькі праз пяць гадоў яны сустрэліся. Фота і лісты з малюнкамі захоўвалі ўсё жыццё. «Калі ты стомішся, калі стане сумна на душы — памятай, мілы, што нам свеціць наша зорачка», — пісала Валянціна каханаму.

Побач — адпраўлены байцу ў падарунак франтавы малюнак пад назвай «Пошук», датаваны 1944 годам. Усходняя Прусія, баявы эпізод з жыцця радавога Леаніда Дубара, выведніка стралковай дывізіі. «Мне вельмі хочацца пабачыць цябе, тата. Але ці мала чаго хочацца кожнаму з нас. Жыццё — гэта бясконцая барацьба». А ці ўмеем змагацца з перашкодамі, хаця б звычайнымі, штодзённымі, мы, тыя, хто жыве ў спакоі?

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**



*Несессер паходнага рыштунку генерал-лейтэнанта артылерыі Георгія Пласкова.*

## Культурны ракурс

Яшчэ з гадоў грамадзянскай вайны Петрыкаўшчына больш за іншыя рэгіёны вядомая як партызанскі край, а дзед Талаш стаў сімвалам народнага мсціўца, які геаічна і самааддана змагаўся з ворагам у грамадзянскую і Вялікую Айчынную войны.

На фота — помнік дзеду Талашу ў горадзе Петрыкаў работы вядомага скульптара Заіра Азгура. Кожны госць альбо мясцовы жыхар лічыць за гонар тут сфатаграфавацца!

**Любоў АРЛОВА**



*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа дасылаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 23.06.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1752.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2268

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686